# СТУДЭНСКАЯ ДУМКА

МЕСЯЧНІК БЕЛАРУСКАГА
СТУДЭНСТВА У ВІЛЬНІ.



№ 2 (3). ЛЮТЫ—САКАВІК. ГОД II.

1925 г.

ВІЛЬНЯ.
Друкарня Н. Левін і Сын, Нямецкая вул. 22.
1925.

# ЗЬМЕСТ.

# СТУДЭНСКАЯ ДУМКА

Грамадзка - навуковы і літэратурны месячнік Беларускага Студэнства.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Віленская вул. 12, 6.

Падпіска квартальна з перасылкай . 3 зл.
Цана асобнага нумару . . . . . . . 1 зл.

№ 2 (3) | 1925, ЛЮТЫ, САКАВІК. | ГОД II.



Пётра Сакол.

## Хай гром грымыць.

Хай гром грыміць, хай вые бура,
Хай ломіць горы маланьня,
Хай забушуе ўсё ліхое,
І затрасецца ўся зямля.

Няхай наўкол пануе крыўда,
І мучаць зьдзекі і прымус!...
Хай знаюць варажыя сілы,
Што не загіне Беларусь!



# Абвешчаньне незалежнасьці Беларусі у сьвятле ідэі гаспадарсьцьвенасьці.

Сьвяткуючы вялікі дзень абвешчаньня незалежнасьці Беларусі мусім падумаць, якое мае значэньне незалежнасьць, якое мае значэньне собскае гаспадарства дзеля кожнага народу наагул і дзеля нашага народу ў асобку.

Мусім тым балей аб гэтым падумаць, бо мы з собскага дазнаньня ня знаем радасьці й шчасьця быць незалежнымі. Ня гледзячы на тое, што незалежнасьць нашае Бацькаўшчыны была 7 гадоў таму назад 25-га сакавіка 1918 г. абвешчана Радаю Беларускае Народнае Рэспублікі, яна й дагэтуль астаецца ў няволі. Дык можам толькі думаць ды разважаць аб тым, што дае народу яго незалежнасьць. Ня ўсе часы собская гаспадарсьцьвеннасьць аднолькава цанілася. Нават у вадзін і той самы час адны народы цэняць яе балей, а другія меней. Тут асабліва вялікая розьніца паміж народамі гаспадарсьцьвенымі і народамі негаспадарсьцьвенымі, каторыя на якісь балей ці меней даўжэйшы час утрацілі сваю гаспадарсьцьвенасьць. Якая вялікая розьніца, прыкладам, паміж Француза̀м, які не прадстаўляе сабе нават народу бяз собскага гаспадарства і многімі народамі, жывучымі ў „усходняй турме народаў“, якія адважыліся дамагацца свайго гаспадарста толькі ў апошнія часы.

Негаспадарсьцьвенаму народу прыходзіцца жыць у розных надзвычайна зьменных варунках, а таму й пагляд яго на сваю гаспадарсьцьвенасьць вельмі мяняецца. Гэты пагляд мяняецца, як ад варункаў, што стаяць вонках гэткага народу, як гаспадарсьцьвеная ўлада і інш. ды ад ступені разьвіцьця самага негаспадарсьцьвенага, паднявольнага народу.

Адраджэньне народу, які, утраціўшы сваю гаспадарсьцьвенасьць, з часам утраціў балей меней і сваю нацыянальную сьвядомасьць, праходзіць звычайна гэткія пэрыяды.

Спачатку зьяўляецца зацікаўленьне народным творствам, казкаю, песьняй, мовай; пачынаюць зьбіраць і выдаваць гэтае нацыянальнае багацьцё. Археолёгі і, наагул, навучоныя цікавяцца старавечнінаю свайго народу, зьбіраюць яе ў свае музэі і архівы. Гэта яшчэ не пачатак адраджэньня народу, але, так сказаць, перададраджэнская пара. Этнографы й навучоныя гэтае пары любяць тую стыхію, якую вучацца, багацьці, якое зьбіраюць, сярод якое наагул працуюць; яны часта захопляюцца гэтай стыхіяй, без энтузіазму аб ёй гутарыць ня могуць і, аднак, ня робяць з яе ніякіх консэквэнтных вывадаў, што да будучыні таго народу, каторы стварыў падобнае вялізарнае багацьце. Мала гэтага, падобныя рабачаі часта ня ўмеюць свае роднае мовы, у якой знаходзяць гэтулькі мінулых і цяперашніх культурных скарбаў, не адчуваюць яны патрэбы практычна ўмець родную мову, бо з свае працы ня робяць ніякіх практычных нацыянальных вывадаў. Гэткі

наўчоны, выдаўшы шматтамовую працу аб роднай мове, не напіша нават і маленечкае граматыкі дзеля практычнага ўжыцьця. І няма дзіва, бо яны-ж дзеці сваe перададраджэнскае этнографічна-архіўнае пары. Бывае, што гэткіх людзей знаходзім у іншых, далейшых пэрыодах нацыянальнага разьвіцьця. Тады яны зьяўляюцца людзьмі, каторыя асталіся ад жыцьця.

Калі-ж этнографічна-музэйна-архіўная праца дакранаецца людзёў, што ня толькі зьбіраюць памяткі жыцьця, але самі твораць жыцьцё, то пачынаецца першая пара нацыянальнага адраджэньня. Тады ўзьнімаецца барацьба за мову, за яе правы ў літэратуры, школах, урадах і г. д. Барацьбою за правы нацыянальнае мовы і практычнае яе ўжываньне характарызуецца першы пэрыод нацыянальнага адраджэньня.

Калі-ж рух паглыбляецца, калі аднэй мовай не абмежуюцца, а жадаюць усе культурныя духовыя вымаганьні здаволіваць згодна з сваёю душою, патрэбамі, імкненьнямі — настае другая пара адраджэньня, якую можна назваць парою культурнае эманцыпацыі.

Чалавек, аднак, ня жыве адным духам, але патрабуе таксама і матар'яльных даброў дзеля свайго быцьця. Дзеля гэтага ў далейшай фазе разьвіцьця прылучаецца да ранейшых здабыткаў яшчэ эканомічная эманцыпацыя ад чужнікоў; зьяўляюцца свае гаспадарскія, прамысловыя й каапэратыўныя арганізацыі. „Народ сам сабе", „не дадзёмся эксплюатаваць", „чужнікі не павінны карыстацца працаю нашых рук"—вось тыя новыя лёзунгі, што зьяўляюцца ў гэтую пару.

Але запраўды свабодна здаволіваць свае духоўныя й эканамічныя патрэбы можна толькі тады, калі ёсьць палітычная незалежнасьць. Калі нашыя культурныя ўстановы, нашыя аканамічныя арганізацыі будуць залежны ад улады пануючага народу, якая будзе іх нармаваць паводле патрэбаў свайго, а не паднявольнага народу, дык гэтыя ўстановы й арганізацыі прыродна разьвівацца ня могуць. Калекае разьвіцьцё там, дзе створанае духам і рукамі паднявольнага народу нацыянальнае дабро можа быць у кожную часіну зьніштожана грубой сілаю народу пануючага. Пануючы народ нават у сваіх палітычных і імпэрыялістычных імкненьнях карыстае з культурных і аканамічных здабыткаў свайго паняволенага народу, бо гэты-ж народ складае часьць ягонага гаспадарства.

Дык сваё собскае незалежнае гаспадарства зьяўляецца найшырэйшым ідэалам кожнага адраджаючагася народу.

Гэткім парадкам відзім, што народ, адраджаючыся, дамагаецца й здабывае сабе балей і балей свабоды ці то ў ужываньні свае роднае, а, значыцца, і прыроднае мовы, ці то ў здаволеньні патрэбаў свайго духа, ці то ў карыстаньні працаю сваіх рук і прыроднымі багацьцямі собскае зямлі.

Мы відзелі ступені разьвіцца народу, каторы адраджаецца. З кожнай новай парою свабода народу расшыраецца на новую абласьць нацыянальнага жыцьця. Старая абласьць нацыянальнага жыцьця застаецца, але прыбывае яшчэ новая. Гэткім парадкам нацыянальнае

жыцьцё адроджанага народу зьяўляецца шырокім, поўным і ўсестароньнім.

Гэтаму адпавядаюць у нас і самыя словы „господарства“, „гаспадар“. Здаўна Беларусы, відаць, раўнавалі гаспадарства з гаспадаркаю. У нашай мове гаспадар значыць валадар свае асобнае собскае, незалежнае ад нікога гаспадаркі і гаспадар—той, хто стаіць на чале незалежнае зямлі, народу, незалежнага гаспадарства.

Мы прадставілі сабе абраз разьвіцьця народу, які адраджаецца. Але гэткі тэорытычна-правільны абраз нацыянальнага адраджэньня бывае толькі ў тэорыі; у жыцьці-ж запраўдным ён балей ці меней адхінацца, астаючыся ў істоце тым самым. Нярэдка бывае, што ня ўвесь народ разьвіваецца адначасна: адна часьць пабегла ўперад, а іншая асталася. Дык часта прыходзіцца ня толькі разьвіваць усе галіны нацыянальнае працы, але й пачынаць адначасна.

Зірнём цяпер у нашую мінуўшчыну, у гісторыю, паглядзём, як нашыя продкі цанілі сваю гаспадарсьцьвенасьць.

Гісторыя застае наш народ арганізаваным у свае нацыянальныя гаспадарствы.

Ад заваяваньня ўсходніх Славянаў Ворагамі-Русамі Беларусь (Крывія), як цэласьць, была пад агульнаю ўладаю Рурыкавічаў толькі які дзесятак гадоў у часе князя Валадзімера Сьвятога. Але з Ізяславам, сынам Валадзімера, і полацкае княжны Рагнеды, незалежнасьць Вялікага Князьства Полацкага аднаўляецца. Незадоўга вылучаецца з-пад агульнае ўлады Рурыкавічаў Горадзенскае князьства, за ім Турава-Пінскае і Смаленскае.

Ня толькі вышшыя слаі нашага грамадзянства ў гэты пэрыяд беларускае гісторыі жылі гаспадарсьцьвеным жыцьцём, жыў ім увесь народ і на сваіх вечах праводзіў гаспадарсьцьвеныя пастановы.

Яшчэ балей, можна сказаць з надзвычайнаю сілаю, разьвіваецца беларуская гаспадарсьцьвенасьць, выступаючы пад новым назовам Літоўскага гаспадарства. Продкі нашыя ў гэтую пару не прадстаўлялі нават свайго быцьця бяз собскага гаспадарства. Спроба Ягайлы злучыць нашае гаспадарства з Польшчаю не ўдалася. Краўская ўмова 1385 г. ніколі ня была праведзена ў жыцьцё. Мог здрадзіць сваёй гаспадарсьцьвенасьці князь, але ня мог ёй здрадзіць жывучы гаспадарсьцьвеным жыцьцём народ.

Ажно да II палавіны 16 веку ў нас ёсьць моцнае гаспадарства. Ад II-ж пал. гэтага веку пачынаецца яго ўпадак. З прычыны шкоднага Беларусом (Крывічом) напрамку палітыкі Ягайлавічаў і дэмаралізуючаму беларускае грамадзянства польскаму ўплыву Літоўска-Беларускае гаспадарства аслабла. Калі-ж у 1561 г. ўзьнялася доўгая й цяжкая вайна з Маскоўшчынаю за Лівонію, Палякі скарысталі з мамэнту і выставілі дамаганьні злучэньня з нашым гаспадарствам—вунію. Ня могучы ваяваць адначасна на некалькі фронтаў, Літоўска-Беларускае гаспадарства мусіла згадзіцца на вунію, якая й адбылася 1569 г. ў Любліне. Пасьля гэтае вуніі Літоўска-Беларускае гаспадарства было

толькі аўтаномнаю часткаю супольнага фэдарацыйнага дуалістычнага гаспадарства Рэчыпаспалітае.

Аўтаномія Літоўска-Беларускага гаспадарства ў Рэчыпаспалітай была даволі шырокая (асобнае войска, фінансы, асобны ўрад). Яе можна прыраўнаваць да цяперашняе аўтаноміі Бавары ў складзе Нямеччыны. Падобнай аўтаноміі ў Маскоўшчыны дамагалася Цэнтральная Украінская Рада ў часе, калі проф. М. Грушэўскі быў яе старшынёю.

Блізка да гэткае аўтаноміі стаіць і Гадзяцкая ўмова украінскага гэтмана Ів. Выгоўскага, наступніка Богдана Хмельніцкага, з Польшчаю.

Аўтаномія гэткая захавала беларускую гаспадарсьцьвенасьць і давала спадзевы на вярненьне ў выгадны мамэнт і незалежнасьці. З аўтономіяй гэтай яшчэ можна было жыць, каб ня другое ліха, што прыйшло адначасна з Люблінскай вуніяй. А ліхам гэтым была полёнізацыя беларускага панства й шляхты. На гэты працэс мусім зьвярнуць асабліваю ўвагу.

У часе Краўскае ўмовы беларуская культура стаяла, калі ня вышэй, дык прынамся ня ніжэй за польскую. Аднак з прычын злучаных з сувязяй з Польшчаю і даўгіх войнаў з Маскоўшчынаю культура гэтая падупала. Ніжэй стаяла яна ў прыраўнаньні да культур іншых заходніх народаў у пал. 16 веку.

Тымчасам польская культура ў палавіне 16 в. даходзіць найвялікшага свайго расьцьвету. Галоўнаю прычынаю гэтага быў уплыў на Польшчу чэскае культуры. Польская літэратура, якая толькі ў канцы 15 в. пачынаецца, разьвіваецца пад уплывам чэскае літэратуры, адкуль бярэ гатовыя прыклады. Яшчэ ў II пал. XVI в, была чэская мова моваю вышэйшага польскага грамадзянства, як у XVIII в. францускае мова ў Нямеччыне а I пал. 19 в. ў Расеі. Далей вялікі быў уплыў чэскіх братоў. Якраз па Люблінскай вуніі, калі беларуская шляхта ўваходзіць у бліжэйшыя зносіны з польскаю шляхтаю, апошняя ёсьць на вярху свайго культурнага разьвіцьця, на якім дзяржыцца яшчэ ў пачатку XVII в.

Калі-б Беларусь была незалежнаю, дык пашырэньне паміж беларускаю шляхтаю польскае культуры й мовы ня было-б так шкодным, як ня было вельмі шкодным ужываньне нямецкім, а пасьля і расейскім вышшым грамадзянствам францускае мовы, або ўжываньне палякамі чэскае мовы. У XVII в. пры двары маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча была пашырана польская мова, але гэта не перашкаджала Маскоўцам жыць сваім нацыянальным жыцьцём і вясьці сваю палітыку. Але пры залежнасьці пасьля Люблінскае вуніі Беларусі ад Польшчы пашырэньне польскае мовы паміж беларускаю шляхтаю вяло за сабой і яе духовую полёнізацыю.

Гэткім парадкам Палякі пераймалі з першага жарала заходнюю культуру і гэтаю-ж культураю білі Беларусоў, дэнацыяналізуючы іх. Дык Беларусь была біта сілаю заходняе культуры. Далей зьяўляецца ў Беларусі каталіцкая прапаганда з сваймі езуіцкімі колегіямі, борзда рассаджанымі ад Вільні да Смаленска і ўзноў нас б'юць сілаю ўсяго каталіцкага Захаду.

Дык што-ж трэ' было рабіць, каб патрэбная нам заходняя культура, якой урэшце мы карысталіся заўсёды ад пачатку свае гісторыі, нясла да нас ня сьмерць а жыцьцё? Трэ' было гэтую культуру самым чэрпаць з першага жарала, абмінуўшы польскае пасярэдніцтва, бо ўсёператраўленае нашымі непрыяцелямі, зьявіцца заўсюды да нас атручаным іхнім ядам.

Мы наўмысьля задзержаліся на гэтым працэсе нашае гісторыі, бо цяпер, адраджаючыся, мы павінны сябе папытацца, адкуль, з якіх жаролаў чэрпаць нам культуру? Ёсьць цяпер адна культура — гэта культура агульна-заходняя; аб культуры бізанскай ці якой іншай мусіць ніхто сур'ёзна цяпер ня будзе гутарыць. Пытаньне можа быць толькі аб спосабе яе чэрпаньня, ці маем яе браць безпасярэдня з Заходняе Эўропы ці цераз пасярэднікаў Палякоў і Маскоўцам. Бяссумліву, трэба браць яе з першага жарала. Калі хочам перакласьці якуюнебудзь кнігу, дык будзем перакладаць яе з арыгіналу, а не з перакладу. Але перанятая культура ёсьць не пераклад а пераробка, дык і, пагатове, патрабуем культуру перарабляць з добрага арыгіналу. Маскоўская й польская культуры, ці ляпей іхныя пераробкі заходняе культуры, заўсёды будуць першая раскладаць і русыфікаваць, а другая дэмаралізаваць—палячачы. Зацемім, што прыкладам Чэхі стараюцца карыстацца па магчымасьці з францускае культуры і высьцерагаюцца культуры сабе няпрыязнае—нямецкае. Але-ж польская ці маскоўская культура па свайму значэньню нават блізка не стаялі культурны нямецкае. Дык мусім браць культуру ад іншых народаў славянскіх, раманскіх і германскіх.

Тут асабліва важнае значэне можа мець чэская культура. Раўняючыся ў многіх сваіх галінах з культурамі раманскімі й германскімі, чэская культура мае для нас тую перавагу, што калі францускаю, нямецкаю ці англійскаю моваю малая толькі лічба Беларусоў можа карыстацца, то мова чэская можа быць даступна ўсёй беларускай інтэлігенцыі.

На праскіх беларускіх студэнтах ляжыць важная задача самым знаёміцца з чэскаю культураю ды знаёміць з ёю беларускае грамадзянства.

Ня гледзячы на полёнізацыйныя ўплывы, не адразу шчэзла беларуская гаспадарсьцьвенасьць, ні імкненьні вярнуць даўнейшую незалежнасьць. Адценім некаторыя з гэтых спроб вярненьня незалежнасьці.

Як у 1654 г. ўзьнялася вайна Польшчы з Маскоўшчынаю за Украіну, то Беларусы на чале з князьмі Радзівіламі зрабілі дужую спробу вярнуць незалежнасьць свайго Літоўска-Беларускага гаспадарства. Скора Польшчы абвесьціла вайну Швэцыя. Швэцыя абяцалася памагчы Беларусі ў яе незалежніцкай барацьбе і за гэта прызнаваўся пратэктарат швэцкага караля над адбудаваным Літоўска-Беларускім гаспадарствам.

Але ў гэтым часе відзім ужо й пачатак дэзарганізацыі беларускіх гаспадарсьцьвена-незалежніцкіх сілаў. Вось прыклады. Магілёў-

ская шляхта на чале з Палонскім без паразуменьня з кіраўнікам вызвольнага гаспадарсьцьвенага руху кн. Радзівілам спачатку прылучаецца да гэтмана Хмельніцкага, далей прызнае над сабою апеку маскоўскага цара, войска якога тады заняло Магілёў. Але паспытаўшыся, як салодка маскоўская апека, разам з магілёўскімі мяшчанамі, акалічнымі сялянамі й нават духавенствам робяць страшнае паўстаньне, і выганяюць Маскоўцаў з Магілёва. Гэтак гэнае здарэньне апісана праваслаўнымі сьвяшчэньнікамі, манахамі Буркалабаўскага манастыра ў т. зв. Буркалабаўскай летапісі.

Бачым тут борздую зьмену орыэнтацыяў, нейкую орыэнтацыйную лёгкасьць. Штось падобнае да нашых орыэнтацыяў 18—20 г. але калі гэтыя апошнія былі толькі орыэнтацыямі на паперы, а таму й ня так шкодныя, у XVII в. орыэнтацыя Беларусоў цягнула за сабой рэальныя беларускія сілы.

Ня будзем задзержвацца на далейшых спробах вярнуць беларускую ня толькі незалежнасьць, але й гаспадарсьцьвенасьць, бо ўжо й яна была ўтрачана. Спробы гэтыя былі як у Вялікую Паўночную вайну, так і ў часе паходу ў Маскву Наполеона I; калі быў утвораны асобны ўрад для беларуска-літоўскіх земляў і арганізавалася войска. Успомнім толькі аб спробе беларускага патрыёта-рэвалюцыянэра Канстантына Каліноўскага ў 1863 г., калі было польскае паўстаньне.

Канстантан Каліноўскі, будучы сябром т. зв. Літоўскага паўстанскага камітэту адмовіўся спаўняць загады Варшаўскага камітэту. Далей ён, каб вызваліцца ад Варшаўскага паўстанскага камітэту ўтварыў новы паўстанскі камітэт і абвесьціў сябе дыктатарам Беларусі й Літвы, як незалежнае гаспадарсьцьвенае адзінкі. Урад з Каліноўскім на чале пачаў гарачую паўстанскую працу, ня гледзячы на паніку Варшаўскага камітэту.

Каліноўскі, як вой і палітык, уцяміў адразу, што толькі тое прымушана будзе прызнаць Варшава, што будзе зроблена на месцы ў Бацькаўшчыне. Гэта прыклад беларускім палітыкам. Не стараньнем ў Варшаве ці Маскве можа быць асвабоджана Беларусь, але працаю сярод беларускага народу. Гэтак заўсюды было, ёсьць і будзе. Каліноўскі гэта наш першы вой і палітык-адраджэнец і кірунак яго палітыкі ўзядзены быў зусім правільна.

Калі маем перад сабою якую-небудзь ідэю, варта заўсюды пацікавіцца традыцыяй гэтае ідэі. Традыцыя для ідэі—гэта тое самае, што ўчуцьцё для асобнага чалавека. Без учуцьця мала справаў робіцца, мала й ідэяў ужыцьцяўляецца без традыцыі. Мы ў некалькіх славох пераглядзелі гісторыю нашае гаспадарсьцьвенасьці. Але ці так яна прадстаўляецца цяперашняму беларускаму грамадзянству? Ажно дзіва. Ня гледзячы на малое веданьне роднае гісторыі, беларускае грамадзянства прадстаўляе сваю гаспадарсьцьвенасьць у гістарычным яе разьвіцьці зусім таксама.

У нас зусім добра ўцемлена, што гістарычная Літва—гэта нішто іншае як Беларусь палітычна й культурна. Ды гэтак глядзяць на нас і нашыя суседзі Украінскі й маскоўскі народ. Беларуса інакш не на-

завуць, як Ліцьвін. Ды гэтак-жа глядзіць, у канцы, і суседняя інтэлігенцыя, якой дух мінуўшчыны ня чужы. Па прыклад далёка йсьці ня тэба. Найлепшы знаўца маскоўскае мовы, аўтар слоўніка „Живаго великорусскаго языка“, Даль, кажа: „в Псковской и Тверской губ. слышится Литва“. І ён добра кажа, бо хоць гістарычнае Літвы там ня было, але беларуская мова і беларускі народ быў заўсёды. Пагоня — гэрб Вялікага Князьства Літоўскага зьяўляецца нашым нацыянальным і гаспадарсьцьвеным гербам.

Таксама традыцыя супольнага Беларуска-Літоўскага гаспадарства нам так уелася ў косьці, што мы да апошніх дзён не маглі сабе прадставіць Беларускага гаспадарства без этнографічнае Літвы. І гэтыя жаданьні нашыя былі ня толькі згодныя з традыцыяй, але й зусім добрыя. Можа быць асобная незалежная Літва (ў цяперашнім разуменьні гэтага слова) і асобная незалежнае Беларускае гаспадарства, але благі будзе той Беларус, хто з берагоў Нёмна, Дзьвіны й Дняпра ня будзе бачыць Балтыцкага мора.

Ня будзем расказаваць аб усіх тых здарэньнях апошніх часоў у Беларусі, якімі праяўлялася беларускае палітычнае жыцьцё і якімі дайшло яно да акту абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, бо яны наагул ведамы.

Але што значыць гэтае слова „незалежнасьць“, якое сказала ўсходам сонца 25 сакавіка 1918 г. Рада Рэспублікі? Словаў вялікіх, харошых і добрых у вапошнія часы было сказана ня мала. Але што гэта за слова, за каторае за які год-другі йшлі ўміраць масы людзёў, што гэта за вялікае слова, якое падымала паўстаньні ажно ў Смаленшчыне дзеля барацьбы проці паняволеньня й падзелу Беларусі, якое гэта магічнае слова, што цяпер, калі беларуская прэса задушана, калі арганізатары й наагул інтэлігенцыя ў турмах, раптам час ад часу як электрычнай іскраю праляціць па ўсёй Беларусі думка й гутарка: **„Здабудзем нашае Беларускае Гаспадарства!“** і пралятае гэтая гамонка электрычнай хваляю з павету ў павет, даходзіць да Рыскае граніцы, пераходзіць яе, бо граніцы ёй няма, і коціцца далей.

Дарагія браты! 7 гадоў як абвешчана незалежнасьць нашае Бацькаўшчыны, а мы й дагэтуль астаемся ў няволі. Але ўжо не нявольнікі мы!

Абвешчаньне незалежнасьці Беларусі гэта ня толькі слова, з гэтым словам ўвайшло ў нашае жыцьцё штось вельмі рэальнае. Гэтым словам было разарвана адно з наймацнейшых путаў нашае свабоды духа. Вось скуль тыя дужыя жаданьні, вось скуль тое вялікае пачуцьцё ў Народзе, які яшчэ ў 14 г. меў мо‘ толькі некалькі чалавекаў, каторыя лятуцелі аб незалежнасьці.

Ня будзьма нявольнікамі! Нічагуські не рабема, што непатрэбна й шкодна для нашага народу, і ўсё рабема, што патрэбна й карысна народу.

Калі гэтак мы, Беларусы, станем аканчальна свабоднымі духам, калі нашай галоўнай усеабымаючай ідэяй будзе дабро нашага Бела-

рускага народу, калі кожны Беларус наўперад будзе мець на ўвеце агульнае дабро, то ніякія непрыяцелі, ніякія турмы й цёмныя сілы ня зьдзержаць нас у нашым імкненьні да незалежнасьці, то настане незадоўга тая вялікая часіна, калі мы ня толькі духам, але й целам станем свабоднымі, незалежнымі, калі ня толькі юрыдычна, але й фактычна будзе **Незалежная Беларусь.**

# Аб аргумантах ад розуму і аб аргумантах ад сэрца.

(З цыклю „Штодзенныя думкі“).

(Гл № 1 (2) „Студ. Дум.“).

II.

Пэрыяд адраджэньня Беларусі, сучасьнікамі якога мы зьяўляемся, ёсьць пэрыяд пераважна, а мо‘ і выключна літэратурна-поэтычны. Мы не абмылімся, калі скажам, што да сёньняшняга дня беларускі адраджэнскі рух вядзе і дзьвігае наперад беларускі пісьменьнік, ці бліжэй — беларускі паэт. Беларускае аповесьці і рамана, як наагул, сур‘ёзнай прозы, яшчэ няма. Яшчэ не дасьпеў яе час. Тым больш не дасьпеў час і для беларускай навукі,—яна ёсьць справа заўтрашняга дня. Мы жывем, калі можна так характарызаваць, у эпоху свайго „нацыянальнага романтызму“, а романтызм, як ведама, заўсёды „пеяў і будзе пеяць у вершах“. Элемэнт глыбокага цікаваньня жыцьця, крытычнага думаньня над яго праблемамі, што даецца ў выніку прозаічнага твору, — усё гэта яшчэ наперадзі. Пакуль што мы маем верш, — пераважна лірычны, што так сама характарызуе романтычны уклон творчасьці. Але тое, што мы маем у гэтай галіне нагэтулькі багата, дасканала, сьвежа і арыгінальна, што мы можам быць зусім спакойнымі за сваю будучыну.

Беларусь нашых дзён прысутна пры разсьвітаньні свайго творчага духа. Да зэніту яшчэ далёка, — але гэтае разсьвітаньне нагэтулькі багата зьместам і барвамі, што поўдзень нашага рэнэсансу абецае быць пагодным і слаўным.

Наша паэзыя -- добра завостраны меч, — духовы меч, што крышыць мур сьцюдзёнасьці і недавера. Паэт нясе гэты меч — ён б‘ец ім у сэрца людзей, мінаючы розум, разсявае сум і цемру сучаснай гадзіны. Для ўсіх недаверкаў, для ўсіх „слабых духам“, гэты меч — песьня—ёсьць адзінае збавеньне:

„Бійце ў серца іх, бійце мечамі,

„Не давайце чужынцамі быць“... — гэты заклік узмацуе не адну

хістаючуюся душу і вывядзе на адпаведны шлях не адзін заплутаны розум.

І, запраўды, шмат хто з інтэлігэнтных працаўнікоў быў скіраваны на нацыянальны шлях, ласьне, гэтым мячом, — песьняй і вершам, налітымі сьлязьмі і кроўю. У украінскім адраджэньні да ліку іх належыць гэткі выдатны чалавек, як Міхайло Драгаманов. Гэта ён прызнаваўся, што „вывучэньне украінскіх песен прымусіла яго моцна палюбіць гэты народ". Ласьне, народная песьня і гэній Шаўчэнкі зрабіў з яго заядлага расейскага космапаліта, — адным з галоўных будаўнічых украінскае справы. Вядома так сама, што нават і зрусыфікаваны Гоголь, нават і той пісаў сваім сябром у Кіеў: „пришлите мнѣ пѣсен украинских: я задыхаюсь в здѣшней петербургской атмосферѣ".

Скептычна настроены інтэлігэнт можа заўважыць, што сучасная беларуская паэзыя ня мае вялікай вартасьці, дзеля таго, што яна надзвычайна аднаадменна: пераважаючую частку яе становяць сумныя песьні аб горы, нядолі, нудзе і бядоце. Такі характар, быццам, не абяцае Беларусі нічога добрага. Доля бадзеньня пад чужой прынукай, доля беднасьці, забітасьці, небарачства, аб чым поўна ў нашай літэратуры, сьведчыць аб занепадзе народнае энэргіі, аб пэўнай волевой дэгенэрацыі. І скептыкам, ды пэссымістам здаецца, што калі ў беларусаў няма іншай духовай стравы, дык гэтую атруту трэба кінуць. Каб уратавацца ад духовай сьмерці трэба ўхапіцца за больш бадзерную, больш актыўную і надзейную літэратуру, хоць бы яна была чужая. Па іх пераканаўньню характар беларускай поэзыі сьведчыць, што, быццам, народ беларускі, як арыгінальна-творчая нацыя, — няжыцьцёвы, а непакояцца тым, што няжыцьцёва не мае сэнсу. „Падаючага штурхні", казаў Ніцшэ, усё роўна з штучнага выхаваньня нічога здаровага і годнага будучыны ня выйдзе. Нашыя правінцыяльныя ніцшэанцы вельмі спагадаюць гэткім мысьлям.

Мы павінны згадзіцца, што цяперашняя (ня сёньняшняя!) беларуская паэзыя маець пэўныя аднабокасьці. Яна сама ў гэтым шчыра прызнаецца. Развярніце найбольш салідны збор твораў першага паэта Беларусі Янкі Купалы: на першай старонцы вы знойдзеце эпічна-спакойную заяву, што ў ім „больш за ўсё нуды праклятай". Так яно і ёсьць і з гэтым нельга спрачацца. Паэзыя—люстэрка жыцьця і калі жыцьцё ненармальнае і горкае, дык і паэзыя будзе горкай і нуднай. Але рабіць адсюль пэссымістычны вывад — зусім дарма.

Мы добра ведаем, што некаторыя асаблівасьці нашага нацыянальнага „Я", якімі мы хацелі-б гардзіцца, шмат хто з чужынцаў лічыць за вялікія хібы. Так, прыкладам, нашую прыраджоную скромнасьць — лічуць за забітасьць, за хваравую, арганічную нявдольнасьць; адсутнасьць у нас захапнасьці, якая ў гісторыі ўзгадоўваецца колёнізацыйнымі імкненьнямі, — прыймаюць за адзнаку слабасьці; нашую прыроджаную мягкасьць і лагоднасьць, што сьведчыць аб гістарычнай культурнасьці беларускага народу, — прыймаюць за адсутнасьць цьвердасьці, трываласьці і ўпартасьці ў барацьбе. Мы добра ведаем гэтыя агідныя, абрыдлыя прыпеўкі аб „забитых бѣлоруссах",

аб „biednych kmiotkach“. І трэба згадзіцца, што да гэтых прыпевак мы самі — сьвядома, ці несьвядома *) дакладалі руку.

Але, паўтараем, ад гэтых прызнаньняў так сама далёка да пэссымізаў у думках аб будучыне Беларусі, як неба далёка ад зямлі. З рэдкай правяднасьцю зразумеў гэта знамяніты „гарун“ Беларусі — Аляксандар Прушынскі. У сваім дынамічным вершу „Паэту“ ён загадвае:

„Прашу цябе, мой брат, сьпявай аб нашым горы,
„Аб тым, што ёсьць цяпер і што даўней было,
„І што на ўсякі твар кладзе, як плуг разоры,
„І што ў мільёнах душ разоры правяло.
„Прашу цябе, сьпявай аб горы песьнь адну, ты,
„І наш гаротны лёс рабі яшчэ цяжэй, —
„*Тады, убачыш сам, — парвуцца духа путы*
„*І будзе ясны дзень да нас тагды бліжэй*“... (курс. мой, Г.).

Так, ласьне, і ёсьць: песьня аб горы пяецца паэтам не для таго, кая народ нікнуў і занепадаў яшчэ больш, а для таго, каб ён выгартоўваў у сабе новую сілу, далейшую здольнасьць пераняськці цяжары сучаснасьці. Гаротная песьня — гэта той молат, які „дробіць шкло— куець булат„.

Рука паэта часта сьведома нацягваець стралу народных цяпеньняў: чым больш напружаннасьць — тым далей паляціць страла вызваленьня.

І дарма імкнуліcь бы нас штурхаць нашыя вучоныя схолястыкі, нашыя інтэлігэнтныя мяшчане: заштурханыя ў вякох мы абіліся і на штурчкі ўжо не рэагуем. Не падаць гатовы мы, — а ўстаць. Устаць ува весь гіганскі ўзрост буйнага дванаццаці мільённага ўваскросшага народу. Устаць са сьветлым чалом, на якім яшчэ зіяюць раны ад стагодняга цярновага вянца, са словам божьяй праўды на вуснах, закутых у вяках пячаткай маўчаньня.

Слова свабоды нашай ужо грыміць,— і сьмешнымі здаюцца нам палахлівыя, хаваючыяся, шчырачыя зубы прарочаства. Яны загінуць як цені ночы.

Паэт наш вядзе нас да сонца! Дарогу беларускому паэту!

**Ал. Галынец.**



*) Да сьведамага паменьшэньня свайго значэньня мы залічаем вельмі няўдалы спосаб беларускіх літэратараў выбіраць сабе псэўданімы. Рэдка які з гэтых псэўданімаў (іх наагул залішне многа!) сьведчыць аб упэўненасьці аўторах у сваіх сілах.

# Баляда „Сьвіцезь“ А. Міцкевіча.

Наваградчына з сваімі ўзгоркамі, лясамі, перарэзанымі мноствам рэк і рэчак, чароўнымі вазёрамі належыць да найхарашэйшых краёў Беларусі. А. Міцкевіч, жывучы ў Завосьсі, пазьней у Наваградку, скуль часта езьдзіў у госьці да сваіх у павеце, знаў родную прыроду і любіў яе. Улюбіў яе яшчэ балей, як ад яе ад'ехаў, жывучы, як студэнт унівэрсытэту ў Вільні або як вучыцель гімназіі ў Коўні.

Магчыма, што паэт знаў рана і возера Сьвіцезь, але пазнаў яго бліжэй у 1818 г., калі з сваім прыяцелем Тамашом Занам прыехаў першы раз у Тугановічы да Верашчакі, у двары якога было гэтае возера.

Хараство возера зрабіла вялікае ўражаньне на А. Міцкевіча, асабліва ночны яго выгляд. Велічыня возера, густы, высокі лес, яго абступаючы, ночная цішыня рабілі ўражаньне чагось вялікага, няведамага, таемнага, а месяц і зоркі, узьнёсшыся высока ў небе і адбіваючыся ў водах Сьвіцезі, тварылі вялізарны пазор *) і рэлігійную чароўнасьць. Усё гэта, як найбалей, гадзілася, каб Міцкевіч выбраў форму баляды дзеля выліцьця сваіх уражаньняў.

Знацьцё ня толькі беларускае (ці ляпей крывіцкае) мовы, словамі каторай паэт часта карыстаўся ў сваіх творах, але й Крывіцкае народнае поэзіі—песьняў, легендаў, байкаў ці то беспасярэдня ці пасярэдніцтвам суседа і прыяцеля Яна Чачота, што зьбіраў крывіцкія народныя песьні і выдаваў іх, як „Piosenki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny w narzeczu ludu krywickiego“, пісаў сам крывіцкія (беларускія) вершы і быў найвялікшым народнікам з усяе філёмацкае групы, дала яму магчымасьць лёгка знайсьці аснову дзеля задуманае баляды. Пэўна не ад аднаго толькі рыбака, аб якім апавядаў Ходзька ў 1846 г., чуў ён казку аб німфах (русалках) Сьвіцескіх. Аб Сьвіцезі і ўсім іншым чуў ён ад многіх і мо' балей мноства матар'ялу, чымся нястача яго, перашкаджала паэту даволі яго выкарыстаць у сваім паэтычным творстве. З казак аб дамовінах, лясунох, русалках ён узяў адну аб німфах-русалках Сьвіцезі. З легендаў аб запалых замках, цэрквах, касьцёлах і мястох, узьнялася думка аб запалай Сьвіцезі. З міталёгічных казак аб перамене людзей у зьвяраты і краскі паўстала думка аб перамене жанок сьвіцескіх у ўзьбярэжныя краскі і зельле. Лучачы казкі аб сьвіцязянках з легендамі аб západаньні мястоў, паэт мусіў у сваёй фантазіі знайсьці прычыну дзеля гэтага няшчасьця. Назоў красак цары падсунуў яму маскоўскі наезд, хоць за Міндоўга маскоўцы на Беларусь не нападалі, а калі з часам пачалі нападаць, дык да стагодзьдзя XVII да Наваградка не даходзілі.

Драбніцу аб жаданьні жанок сьвіцескіх самых сябе пазабіваць Міцкевіч узяў і прытарнаваў з гістарычнае традыцыі. Ён у зацемках да Гражыны кажа: „Ад п. Анацэвіча, які ведае нацыянальную гісто-

*) *Пазор*—вонкавае хараство.

рыю, я чуў, што ў рукапісе валынскага летапісца ёсьць зацемка аб слаўным цаступку жанок нейкага літоўскага места, каторыя, як мужы адыйшлі на вайну, самі баранілі замак, і ня могучы адбіцца ад непрыяцеля, валей самахаць узялі сьмерць, чымся няволю". Каб давесьці, што ў нашай Бацькаўшчыне-Беларусі жонкі ў грозную часіну ваявалі, або, што, прынамся, нашыя суседзі аб нас гэтак думалі, цікаўна яшчэ прывесьці ніжэйшы прыклад. У „быліне" „Дабрыня сват" дачка літоўскага караля ходаецца, як рыцар, з дужасілам Дунаем Іванавічам і ляпей за яго страляе з лука. Быліна гэтая, як даведзена, мае за аснову гістарычнае здарэньне—пабеду кн. Валадзімера Кіеўскага над князем Полацкім Рогваладам і забраньне сілком сабе за жонку дачку Рогваладаву, Рагнеду. Ліцьвіны быліны такія-ж, як і ліцьвіны Міцкевіча, г. зн. Беларусы.

Міцкевіч хацеў узьвялічыць ня толькі абраз роднага краю, але й сям'ю Верашчакаў, ці інакш Марылю Верашчачышку, каторую пакахаў. Дзеля гэтага ў балядзе, пасьвячанай Міхалу Верашчаку, імя князя Сьвіцезі, Тугана творыць ад назову двара Верашчакаў Тугановічы, і робіць яго іхнім продкам.

У зьмесьце баляды трэба адрозьніць рамкі ад запраўднае падзеі. У рамках знаёміць нас паэт з возерам, дзе яно ляжыць, як выглядае, асабліва ўначы, якія там бываюць страхоцьці. Далей, каб адкрыць тайнасьць, Верашчака загадаў закінуць у возера невад „глыбокі ў стоп дзьвесьце". Невад выцягнуў жанчыну-сьвіцязанку, каторай апавяданьне ёсьць запраўднай балядаю. На месцы возера стаяла калісь места Сьвіцезь. У часе нападу Масквы князь Міндоўг з Наваградка загадаў князю Сьвіцезі, Тугану прыйсьці яму на помач. Калі Туган ужо крануўся, ён схамянаецца, што можа „сваіх людзей дзеля чужое згубіць абароны". Варочаецца ў замак, але дачка яго супакоіла, дык паехаў. Тымчасам запраўды няпрыяцель уначы аблёг места. Перапалоханыя жонкі, каб усьцерагчыся ганьбы, хочуць скончыць жыцьцё самагубствам. Гэтаму аднак працівіцца княжна ня дзеля страху сьмерці, але дзеля таго, што спадзяецца помачы Божае. І помач гэная прыйшла.

У асобе княжны Сьвіцезі паэт даў ідэал мужняе і ахвярнае жанчыны, каторы ён прадстаўляў таксама ў „Жывіле", „Гражыне" і „Альдоне".

А ідэал гэты паэт хоча бачыць і ў Марылі. Марыля свая сьвіцязянкі, дачкі Тугана, дык значыцца й яна прыбрана цнотамі княжны Сьвіцезі.

Я. С.



В. Грывіч.

# Мсьцівыя нябошчыкі.



(Гл. № 1 (2) „Студ. Дум.“).

## II.

Шпаркім шагам йшоў Якуб праз гумно, кіруючыся на цянькі к магілкам, да якіх было з добрую вярсту. У гумне за будынкам было ціха і спакойна. Але хмаркі, якія шпарка беглі праз месяц, давалі знаць, што дзьме даволі моцны заходні вецяр. Часамі ён, прарываючыся праз праслы каля будынку і шчылінкі ў асьверах неяк жаласна, быццам, плачучы енчыў.

Хутка Якуб быў ужо ў канцы гумна і пералезшы праз плот апынуўся ў полі. Тут на прасторы вецяр падзьмуў ужо мацней; кусты і дрэвы зашумелі і затрасьліся. Якубу зрабілася жутка, Ен затрымаўся і аглянуўся назад. Кругом было ўсё пуста і глуха. З вёскі данасілася вясёлая музыка, перамешаная з брэхам сабак. Направа за рэчкай у суседняй вёсцы сям-там мігацелі яшчэ ў хатах аганькі. І ніводнай душы кругом, толькі хмаркі, якія беглі па небу, беглі штораз то ўсё гусьцей і гусьцей зьліваючыся на захадзе ў адну вялікую хмару; хмара шпарка падымалася ўсё вышэй і вышэй, грозючы памінутна закрыць ўсё неба.

Страх пачаў агортываць Якуба, але ён яшчэ не паддаваўся. Розум яму гаварыў, што баяцца няма чаго, а, узгадаванае на байках легэндах аб страхах, як на чымсьці бязумоўна ад літары і да літары праўдзівым, сэрца пачынала дрыжэць. Распаляная гарэлкай галава хлапца лёгка перамагла аднак гэты страх і ён узноў пайшоў уперад. Скора ён перайшоў канаву, якую перацінала сьцежка і пачаў зблíжацца да самых магілак, якія разлажыліся на заросшым высокімі соснамі падгорку. Глыбокі роў ды, зробляны з каменьня і моху, высокі і шырокі вал акружылі іх з усіх бакоў і толькі вузенькая брамка ад дарогі пакідала прыступны праход на гэта месца вечнага супакою.

За гэтай абгародкай старыя сосны пад націскам ветру неяк грозна шумелі і стагналі. Высокія і нізкія крыжы, рознай формы і веку і з рознага матэр'ялу зробляныя, якія-то паасобку то па некалькі разам разселяліся пад гэтымі соснамі, у слабым сьвятле, пачынаўшаго хавацца за хмару месяца, выглядалі якімісь таемнымі і непадкупным старожамі тых, хто пад імі быў пахаваны.

Дзяцюк акінуў вокам гэты вобраз кругом і яму стала страшна гэтых маестатычна-велічавых крыжоў. Сэрца пачало неяк моцна біцца, валасы натапурыліся пад шапкай Прад вачыма яго пачалі прасоўвацца абразы з тых нязлічаных казак і легэндаў аб тым, як жорстка і неміласэрна былі пакараныя за сваю непашану і адвагу ўсе тыя сьмелягі, што адважыліся ноччу схадзіць на магілкі, ня толькі штось там узяць. Таёмны неякі голас пачаў яму шаптаць:

„Ня йдзі... вярніся...“.

Ён ужо хацеў павярнуцца назад, як раптам прад вачыма яго як жывы стаў высокі з сіваю барадой Язэп. Якуб відзіць яго як жывога, ён стаіць, гладзіць сваю доўгую бараду і, злосна з пагардай сьмяючыся, кажаць:

„Ня сходзіш“...

Як іголкамі гэта кальнула дзяцюка і ён не застанаўляючыся ўжо над тым, што з ім можа стацца на магілках, рвануўся ўперад. Хутка прайшоўшы брамку, ён апынуўся на магілках. Тут усё было пуста і нёма; нават старыя сосны, як-бы перапужаныя ягонай у такую пару сьмеласьцю, на момант прыціхлі, быццам чакаючы чагосьці важнага —грознага.

Якуб аглянуўся кругом, шукаючы цяпер ужо чагось-небудзь такога, чым-бы мог усім сьцьвердзіць, што ён сапраўды быў на магілках. Аднак, кругом, апрача крыжоў, нічагусянькі такого падаўнога ня было.

— „Узяць вун гэны новенькі крыж“, зьявілася раптам яму ў галаве думка.

Ня доўга думаючы пераскочыў ён праз тыя магілкі, якія адгараджывалі яго ад аблюбаванага крыжа і, абхапіўшы рукамі, моцна пацягнуў яго ўгару. Крыж усероўна, як-бы чакаючы гэтага, нават ня ўпіраўся. Узваліўшы яго сабе на плячо, Якуб павярнуўся к варотам, кабісьці дамоў. У гэты момант заходні вецяр з страшнай сілай падзьмуў на дрэвы; дрэвы неяк сумна застагналі і заенчалі. Прачхнуўшыся ад доўгага сну сава, усероўна як-бы хочучы сказаць „Ня руш“!.. дзесьці праразьліва і голасна закрычала.

Думаўіным холадам абдула гэта ўсё нашага дзяцюка і ён, сам нават ня знаючы, чаго гэта ён так перапужаўся, з ўсяго духу папёрся к вёсцы, моцна трымаючы сваю здабычу.

III.

Якуб выйшаў з хаты Ляваня, каб ісьці на магілкі, з ім выйшла і ўся вяселасьць. Маладуха ламала рукі і плакала, голасна прымаўляючы па сваім даражэнькім брацiку. Старэйшыя выгаварывалі Язэпу, навошта ён пайшоў з Якубам у заклад, іншыя яго баранілі. Дзяўчаты кінуліся супакаіваць маладуху, але гэта ім ніяк не ўдавалася.

— „А мой-жа ты брацейка, а мой-жа ты родненькі!.. А завошта-ж ты сябе губіш!“... галасіла яна на ўсю хату.

Маланкай вестка аб закладзе пераляцела і ў клець і музыка адразу і там сьціхла. Усе з напружаньням і цікавасьцю пачалі чакаць той часіны, калі вернецца Якуб з магілак. Паволі і нудна паўзьлі мінуты чаканьня; аб сьмеху ніхто і ня думаў, каб гэтым не паразіць старэйшых. Палахлівейшыя пачалі, то незаўважна, каб з іх не сьмяяліся, а то і ў адкрытую, цісну цца далей ад дзьвярэй, баючыся што абражаныя сьмеласьцю Якуба нябожчыкі памсьцяцца і на іх. Былі і такія, якія хвалілі Якуба і цьвердзілі, што з ім на магілках нічагу-

сянькі благога не здарыцца, што і яны ўзяліся-б сходзіць і штось прынясьці з магілак. Аднак страх, які панаваў над большасьцю прысутных, перадаваўся і ім, і ў іхнія душы паволі закрадалася няпэўнасьць.

А тут яшчэ гэтыя казкі і легэнды аб страхах, якія бываюць на магілках, вылязьлі з палохлівых душ і плывуць, плывуць па хаце і клеці. А тыя хто іх цяпер бае, з шчырасьцю ўпэўніваюць сваіх слухачоў, што гэта шчырая праўда, што гэта здарылася там і там, што пры гэтым здарэньні быў яго бацька, дзядзька, а часамі і ён сам.

І страх чорнымі крыламі сваімі абхоплівае ўсіх, закрадаецца нават ў самыя адважныя і сьмелыя душы. А на дварэ робіцца ўсё цямней і цямней. Цёмная хмара даўно ўжо закрыла месяц. Вецер дзьме штораз то ўсё мацней і мацней. Дрэвы жаласна енчаць і стогнуць, асьверы пяюць і скавычуць, якбы чуючы штосьці нядобрае. Ужо першыя каплі халоднага ліпкага васеньняга дажджу зваліліся на зямлю, забарабанілі па стрэхах і вокнах сваей быццам мярцьвечай кашчавай рукой. Дзесьці далёка ў лесе за балотам зацягнуў сваю жудасную песьню воўк; яе падхапілі хатнія сабакі.

У гэты момант адчыніліся дзьверы ў хаце Ляваня і на парозе зьявіўся Якуб. Высокі як дуб, у сівым амаль-што белым доўгім армяку на плячох, з доўгімі раскудлачанымі ветрам валасамі, якіх не прыкрывала цяпер ўжо шапка, ён як зданьне якоесь стаяў ў дзьвярох, трымаючы перад сабою белы новенькі крыж.

Усе ўскрыкнулі і анямелі ад страху.

— „Вон!.. вон адгэтуль!.. „Крычалі ўсе немаголасам, якмага далей уцякаючы ад дзьвярэй.

Але куды было ўцякаць?—хата паўнюсянька людзей, покуць заста́ўлены сталамі.

І ўсе, як стада спалоханых авец, кінуліся куды мага хавацца. Душучы і топчучы адзін аднаго, людзі, бяз розьніцы веку і стану, лезьлі на сталы, хаваліся пад лавы. Пад іх дружным націскам пачало ўсё трашчаць і ламацца, разьбіліся і згасьлі лямпы і ў хаце стала цёмна. Падняўся праразьлівы крык, лемант і енк душаных і калечаных людзей.

І калі гэта ўсё трохі супакоілася і хтосьці з сьмялейшых дзяцюкоў запаліў серчык, каб асьвяціцца, Якуба ўжо ў хаце ня было: ён зьнік як зданьне якоесь, за каторае яго палічылі, калі ён з крыжам сваім зьявіўся ў хаце.

IV.

Якуб, убачыйшы той перапалох, які ён зрабіў зьяўляючыся ў хату з вырваным з сьвежай магілкі крыжам, адразу працьверазеў і ад таго запалу, з якім ён браўся ў заклад, і ад водкі, якая перш яму гэтага запалу дадала. Аднак цяпер было ўжо позна варочацца назад: заклад ужо стаўся, ён яго выйграў, выйграў так скора, хоць можа і дорага гэта будзе многа каму каштаваць. Але што рабіць цяпер

з гэтым крыкам, які ён не падумаўшы перш, сюды прынёс? Кінуць дзесь пад страху не выпадала, каб не абразіць сваякоў таго, з чыей магілкі ён яго прынёс, а то і, крый Божа, не папасьці пад суд. Нясьці назад ў гэткую цямніну, якая панавала на дварэ цяпер, было нея͡к прыкра і боязна: страх тлуму перадаваўся і яму, ледзяніў душу, бегаў мурашкамі па скуры, натапурываў валасы.

Аднак, будзь, што будзь, а крыж ён мусіць занясьці туды, адкуль яго ўзяў. І Якуб перахрысьціўшыся, узноў, як і перш, праз гумно пайшоў сьцежкай на магілкі.

Дарога гэта цяпер была ўжо зусім прыкрая. Халодны вецяр з сілай нязнанай веяў па полі і, зрываючы жоўтыя лісты з кустоў і дрэваў, дзіка выў і енчаў, абдаючы з усіх бакоў халоднымі ліпкімі каплямі. Часамі ён неміласэрна закручываўся каля самых ног, рагатаў шалёным рэхам ў галінах дрэў, у стрэхах будынку, у шчылінах варот і пляваў аж у самыя вочы. Кругом было цёмна, хоць калі вочы; нават, аганькоў, якія перш гарэлі ў недалёкай вёсцы, цяпер ужо ня было відаць.

Паволі і асцярожна, каб ня зьбіцца з сьцежкі, хоць і дрыжучы ўсім целам ад холаду, а, можа, і страху, Якуб ішоў уперад. Хутка ён апынуўся ля магілак і, перайшоўшы брамку, па вузкай сьцежцы дайшоў да тэй магілкі, на якой вырваў крыж, сагнуўся і стаў мацаць рукой дзіркі, у якой перш сядзеў крыж. Аднак, дзіркі ён не находзіў: то яму пад руку пападаўся камянь які, то кусок дзерава, то разьбіты чарапок.

На, ня зусім вольную ад забабонаў, душу Якуба гэта веяла халодным жахам і да яго зачалі цісну́цца розныя страхі. Але крыж усеткі трэба паставіць. І ён з новай энэргіяй, хоць і трасучыся ўжо як асінавы ліст, пачаў мацаць па зямлі рукою. На гэты раз ён быў шчасьлівейшы: дзірка знайшлася. Яна была ў яго каля самых ног.

Ня доўга думаючы ён паставіў на яе крыж і, узяўшы яго за плечы, пачаў уціскаць у зямлю. Крыж паволі і неахвотна, быццам, ў штосьці ўпіраючыся, ці за штосьці чапаючыся, улазіў усё глыбей і глыбей, аж на астатку, як здалося Якубу, сеў на свае месца.

Цяпер ужо нічога даўжэй не затрымвала Якуба на магілках і ён павярнуўся і ступіў уперад, каб ісьці дамоў. Дарма толькі было яго стараньне: штосьці, як чыясь нявідзімая дужая рука, трымала яго моцна за палу сярмягі. Чуць жывы ад страху, дзяцюк з ўсей сілы рвануўся ўзноў, аднак, і цяпер дарэмна: сірмяга была як прыкаваная да магілы.

У гэты момант сярдзіты вецяр з новай сілай завыў па полі, праляцеў па соснах і, ускалыхнуўшы званамі, што віселі на старой капліцы, жаласна заенчаў у яе разьбітых вокнах. Быццам, памагаючы гэтаму енку, званы нея͡к урачыста і таемна бомкнулі разоў некулькі, каб праз момант узнова сьціхнуць.

Перапужанаму Якубу здалося, што гэта абражаныя нябошчыкі пяюць і вызвоніваюць яму яго апошнюю гадзіну і ён ускрыкнаўшы

немаголасам з апошніх сіл сваіх рвануўся ўперад. Аднак, дарэмна: магільная нявідзімая рука яго моцна трымала і ён, увесь пакрыты халодным прадсьмяротным потам, зваліўся пад крыж.

V.

Успакоіўшыся троху ад перапуду, які нагнаў на прысутных Якуб, усе на розныя лады пачалі расказваць аб тым, што яны бачылі. Большасьць, аднак, была за тымі, якія цьвердзілі, што гэта быў адзін з абражаных Якубавай сьмеласьцю нябошчыкаў. Паміж імі вёў рэй стары Язэп. Тых, каторыя ўпэўнівалі, што гэта быў з крыжам Якуб, было нямнога.

— „Аднак, дзе-ж дзеўся Якуб?“

Кінуліся і сюды і туды, але яго нідзе не знаходзілі. Маладуха жалосна прымаўляючы бегала па хаце і прасіла ўсіх, каб ішлі шукаць яе даражэнькага брацііка. Паволі ёй удалося сабраць сьмялейшых хлапцоў, якія запаліўшы лятарні пайшлі на магілкі. Наперадзе ад усіх шпарка йшоў Бладысь.

Якуба яны найшлі хутка. Ён ляжаў расьцягнуўшыся на магілцы. Тут-жа быў і вінавайца, каторы так моцна трымаў Якуба. Гэта быў крыж. Полы доўгай сярмягі, у якую быў Якуб апрануты, папалі ў яму, а заціснуты ў яе крыж прыбіў іх да зямлі, як цьвікамі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Праз два дні на магілках забялеўся яшчэ адзін новенькі крыж, пад ім ляжаў малады, адважны Якуб. І хоць перад сьмерцю сваей ён разбаіў усім аб тым, што і як з ім здарылася, — народ гэтаму не паверыў.

Вільня 18—20. І. 1925.

---

# ПСАЛЬМ.

Дасьпела душа мая ў цярпеньні, о Божа мой... Напоўнілі яе і Жаль і Боль, але-ж не апанавалі яе ні злосьць, ні ненавісьць. Апусьцела яна і ўвайшла ў глыб сваю, каб схаваць ад цікавага вока свой Сум і Жуду.

Пакрыліся раны яе тканінай містэрнаю, а пад ёй плыве і плыве кроў жывая ...

Не затрымлівай, о Божэ мой, Крыві плывучай, не адбірай яе агню жывога, бо акамянее душа мая, Пане, і цьвёрдай масаю зрабіцца.

Няхай плыве кроў гарачая, няхай жыве Боль магутны, каб не сталася яна падобна да скалы горнай, нячулай на енкі і стогны ветру бяздальнага.

З. В.

# Вясеньнія мотывы.

Плакалі вясеньнія ночы ў вадзе... плакалі, як-бы чароўным усьмехам неба, як-бы бледнымі зоркамі, як-бы ўміралі... Плакалі вясеньнія ночы... А ў гары чуўся сумны, жальбоўны крык буслаў, што вярнуліся на бацькаўшчыну... Жальбоўны, бо як-бы жаль чагосьці было, бо было чагосьці жаль... А ночы плакалі у вадзе, вясеньнія, ціхія, спакойныя... плакалі ў вадзе... А далі дыміліся лёгка-сінімі туманамі, якія вісьлі... і лашчылі вока... Плакалі ночы... як-бы гук, скрыпкі, растропаны з усіх бакоў, п'яна, вібруючы нёсься туды ў несказаную, неабмежную даль,.. дымлівую даль...

Плакалі, як дзіцё вясьны над разьбітым жыцьцём..., як плюскоты марскіх хваль... так тонка, так ласкава... і заміралі... і п'яна расплываліся ў небі... А ў гары чуўся сумны, жальбоўны крык буслаў, што вярнуліся на бацькаўшчыну.., Вун, там на полі, яны зьбіраюцца, як студэнты пасьля жыцьцёвых раздарожжаў на пірушку... І нешта сумнае, сумна-мэлянхолічнае чуецца ў іх крыках... Запраўды сумнае, запраўды вясеньняе... А ночы... плакалі... Ночы, поўныя вясеньніх чараў, усьмехаў... ціха, як плескі мора, дрыжалі й заміралі; заміралі, п'яна, ціха, спакойна, заміралі...

**Х. І.**

# ШЧАСЬЦЕ

**(вершаванае апавяданьне).**

Хтосьці па лесе ідзе і сьпявае,.
Хустка між соснаў высокіх бялее,
Песьня зьвініць, як згубіўшы надзею,
Сонцу і небу ўкор пасылае.
Сонца ўсходзіць... Зьбялеўшыя зоры
Тануць у рожавым полымі — моры,
У чырвань малююца соснаў вяршыны,
Рожавай робіцца імгла над лагчынай.
У лесе паўцёмна. Ліловыя змрокі
Ў чашчы хаваюцца соснаў высокіх.
Бор, прачыхаючысь, ціха шапоча
Сны — маячэньні канаючай ночы.

Хтосьці па лесе ідзе і сьпявае,
Небу і сонцу жальбу пасылае:
— „Хто ў нас з заранкай на поле выходзіць,
Сілы за працай цяжкай перавод зіць
Эх, сірацінка так раніцай ходзіць,
Буйныя сьлёзкі на постаць раняець,
Горкую долю сваю праклінаець.
Хто ў нас палуднем на ніўцы хінецца,
Дробнымі сьлёзкамі плача, ільнецца?
Эх, сірацінка так з працаю б'ецца,
Белаю ручкаю пот уціраець,
Сьпінку да чорнай зямлі нагінаець,
Горкую долю сваю праклінаець..."

Цяжка на сьвеце, ой, цяжка,
бяздольнай,
Хочацца волі шчасьлівай, раздольнай,
Хочацца ласкі, а людзі сьмяюцца,
Людзі чужыя ваўкамі здаюцца.

---

Матка Галіны ў рацэ утапілась,
Таткі ня ведала, нават, дзяўчынка.
Так і расла, як у лагчыне калінка,
Доля йнакшая Гальцы ня сьнілась.
Людзі ўзялі сірату, узгадавалі,
Людзі кармілі, а болей што...
годзе...
Болей дасьць Бог, кажуць
гэта ў народзе.
Дзеці дражнілі, пасьля перасталі.
Думнай дзяўчынай Галіна ўзрасла,
Год за гадом прыгажэй расьцьвітала.
Цёмныя косы, ружовыя шчочкі,
Вочы--пралескі ці два васілёчкі,
Белыя, гладкія рукі і плечкі,
Голас бы плюскат крынічанькі,
рэчкі.
Толькі маркотна жылося дзяўчыне,
Плакаць што ноч выпадала
Галіне:
Воля, вядома, сірочая воля,
Мачахай злою была яе доля.
Моўчанькі Галя ўсе крыўды
цярпела,
Жаліцца на'т у душы няўмела.
Толькі любіла ўночы сядзеці,
У цёмнае неба з тугою глядзеці.
Зоркі лілі ў душу маладую
Нейкую цішу і згоду сьвятую.
Год за гадом хвойкай вырасла
Галя...

Вербнай нядзеляй сямнаццаць
мінула.
Праца цяжкая яе не сагнула:
Стала вышэйшаю. — Косы—як
хваля...
Сьлёзы вачэй - васількоў не
згасілі,
Шчочкаў ружовых ня зьмялі,
ня змылі,
Крыўды надзеі ў людзёў не
зламалі,
Злога ня ведала сэрцайка Галі.

---

Хтосьці па лесе ідзе і сьпявае,
Гэта Галінка чаромху ламае
У лесе, на краю зялёнай паляны
Сьветлай расой, як сьлязамі
прыбранай.
Сонца з - за цёмнага бору
ірвецца,
Скора і міла над зямлёй распаўзецца,
Цень між камлёў пасплятаны,
вузорны,
Сіні, халодны, мясцамі йшчэ
чорны,
Зьнікне ў золаце раньняга
сонца,
У ласках вясеньніх, гарачых
бяз конца.
Ходзіць дзяўчына, чаромху
ламае,
З белых галінаў расу абтрасае,
Песьню маркотную ціха сьпявае.
Ходзіць і ходзіць... а дрэвы
дарогу
Маўчкі ёй кажуць да чашчы
ў разлогу,
Кажуць дарогу да тоні—балота
Тоні, дзе сонца блішчыць пазалота
У плямах, рудое, іржавай вадзіцы,
Тоні, дзе аер зялёны хіліцца,
Качкі ўюць гнёзды, і малых
выводзяць,

Дзівы, дзе лес гулам жудасным родзіць.
Там над балотам, як чула Галіна,
Рэшткі згніваюць прастарага мліна,
Мхом зарастаюць, а ў ім, між асокі,
Век дажывае млінар адзінокі.
Можа зайсьці варажыці? Ён мае
Сілу дзіўную і моц ня людзкую,
Чортаву, кажуць... вужакаў гадуе,
Лечыць, варожыць, урокі зьнімае...
Сэрцайка Галі калоціцца, б'ецца.
Так бы дамоў і пабегла, здаецца.
Ціха ідзе па мховай пасьцелі,
Твар пахаваўшы ў чаромхавай белі.
Холад іголкамі колець у грудзі.
Вось і балота... Хай будзе, што будзе.

---

Госьцю стары чараўнічы вітае,
З дзіўнай усьмешкай яе аглядае.
Белы, высокі, калматыя бровы,
Ссушаны твар, пажаўцеўшы, васковы,
Белая вопратка, пояс сатканы
З ніцяў грубых, кутасамі прыбраны.
Лапці з ліповага лыка, аборы...
Самае дзіўнае—вочы, як зоры,
Цёмныя, цёмныя—неба ўночы.
Усё пахаваюць, што знае, што хоча,
Добрае, злое, насьмешку ці ласку,
Долю праклятую, долю як казку,
Нейкі агонь у тым поглядзе дзіўным.
Голасам ціхім, глухім, заўныўным
Госьцю стары чараўнічы вітае,
Што яна, красная, хоча, пытае.
Шэптам штось кажа старому Галіна,
Шчокі зьбялелі бы сьнег, палатніна,
Хоча аб долі сваёй запытацца,
З будучым часам таёмным спазнацца.
Мо' ужо любіць дзяўчынка кагосьці,
Мо' ужо заняў яе сэрцайка хтосьці?
Не, не аб тым, пэўна, кажа Галінка,
К дзеду схіліўшысь бы ў лесе калінка.
Любіць... ня любіць... а трудна прызнацца,
Сэрца даўно пачынае мо'рвацца,
Хочацца ўсё, усё выліць, сказаці —
Сорамна нeяк, ну й трэба маўчаці.
Моўчкі стары чараўнік адыходзіць,
Кій свой бярэ, кола кіем абводзіць,
Коўшык прыносіць сьцюдзёнай вадзіцы,
Жменю ў ваду сыпле чорнай зямліцы,
Кажа дзяўчыне ў коўшык глядзеці,
Зёлкі прыносіць тым часам із клеці,
Крышыць іх, сыпле таксама ў вадзіцу,
У коўшык, куды і Галінка глядзіцца.
Ціха ў чорнай, закуранай хатцы.
Моўчкі стары пачынае хістацца
Штосьці нячутна і глуха шапоча,
Долю-нядолю пытае, прарочa.
— „Устану я й выйду ўглея паволі,

З лесу, бору выйду ў чыстае поле,
Стану я сьпіною там да заходу,
Стану чыстым тварам я да ўсходу...
Слухае Галя, чуць дыхае... душыць...
Звон, быццам, б'е, аглушчаючы, у вушы,
Круціцца хата, туман ад парогу
Устаў... спавівае... ня помніць нічога...
Шэпча вядун і ў ваду заглядае,
Зёлак у коўшык сухіх падсыпае,
Сыпле; кажа ціха, паволі,
Жудасна, глуха, што далей, то балей.
— „Абвяжусь я хмарамі сівымі,
Падпаяшусь ранічнай зарою,
Паабтычусь зоркамі малымі,
Абмачуся чыстай расою,
Абсушуся сонейка касою...“
Шэпча ўжо толькі губамі аднымі
Тайну вялікую... водзіць вачымі.
„Ні зьмяніць тых слоў, ні даказаці нікому,
Ні чалавеку старому, ні малому.
Іх замкну я дзесяцьцю ключамі,
Зачыню іх дзевяцьцю замкамі,
А ключы па лесе параскідаю,
У ціне возера — балота пахаваю“...
Скончыў, прамовіў вялікія словы,
Словы апошнія ўжо, ключавыя.
„Будзеш шчасьліваю“, кажа Галінцы,
„Дзякуй кажы тэй шчасьлівай хвілінцы,
Як радзіла да жыцьця цябе маці,
Лепшае долі людзём не спазнаці“.
Кажа стары так, яе аглядае,
З дзіўнай усьмішкай у твар заглядае.
Дзіўна дзяўчыне... Крывёю гарачай
Уся залілася і ледзьве ня плача.
Хлеба ня мае, каб дзеду падаці,
Яек і сыру сіротцы гдзе ўзяці?
Кветкі чаромхі яна сарамліва
Дзеду дае і бяжыць палахліва
Вузкаю сьцежкаю ў вёску ціхую
Зноў працаваць на сямейку чужую,
Сонца, што ўстало ў сьлед ёй сьмяецца,
Сэрца дзяўчыны калоціцца, б'ецца.
Верыць, ня верыць ёй сонейка ласкам,
Той варажбе, чараўнічым тым казкам?
Імгла распаўзлася, радзее і так
Сьветасьцяй раніца Галю вітае.
Звонкая песьня да сонца ільнецца,
Сэрца шчасьлівым прадчуцьцем ірвецца.

---

Доля і шчасьцейка, хто вас пазнае,
Тайну жыцьця ня зямлі адгадае?
Шлеце надзеі і вабіце марай,
Нам абяцаеце шчасьце, а хмарай
Наша жыцьцё спавіваеце, б'еце,
Сэрцу штодзень адпачыць не даеце...
Жыта на ніве яшчэ не дажалі,—
Галю ў гаёчку за вёскай хавалі.

Даўгае жыцьцё ёй доля давала...
Эх, на гадочак яго не дастала.
Стаяла ў тыдзень, бы ў цэркаўцы сьвечка,
Хутка схудзелі і шчокі, і плечкі.
Вочы пралескі зусім патускнелі,
Косы адны, як вясною, цямнелі.
Моўчкі дзяўчына цярпела, хварэла,
Моўчкі і паціху яна дагарэла.
Усё варажбу ў паўсьне ўспамінала,
Шчасьця й будучай долі чакала.
Лес успамінала, і сонца, й фіалкі
У даль усё глядзела паглядам русалкі.
Верыла Галя, што шчасьце ўжо блізка,
Так і сканала, як сонейка нізка,
Нізка стаяла і першыя зоры
Ужо запаляліся ў неба прасторы...

---

Доля і шчасьцейка, хто-ж вас пазнае,
Вашую тайну хто зглыбіць, хто знае?

**Наталя Арсэньева.**

# ГОЛАС НЁМНА.

*(Баляда з даўных часоў).*

„Гэй, ты, Нёман, рака, ты пацеш бедака,
Скажы скуль твае коцяцца воды,
Што зрадзіла цябе, як жылося табе,
Як прайшлі твае цёмные годы“.

Так на брэгу хлапец, Беларус—Маладзец,
Да сваей рэчкі моцна говора;
Рукі крыжам злажыў, галаву апусьціў,
Відаць меў ён вялікае гора.

Так ён доўга стаяў, сваю песьню пеяў
І гукаў да тае рэчкі з слязамі,
Каб сказала яму, хоць такі аднаму,
Як даўно нас завуць Беларусамі.

Нёман ціха шумеў, быццам, жыцьця ня меў,
Думаў думку сваю векавую
І на гук малайца ві сказаў ні слаўца,
А далей цягнуў песьню такую.

Ахапіў хлапца жаль, зьвярнуў вочы ў даль,
Куды воды ён нёс чарадою,
Яму гукнуў, як звон, каб пачуў тое ён,
Беларус што загінець з душою.

Потым к рэчцэ бяжыць, каб канец палажыць
Сваей думцэ, што ў Нёмна пытаўся:
Вочы моцна закрыў валасы разпусьціў
І ў вадзе з слязамі схаваўся.

Ускалыхнулась вада ад краёў аж да дна,
Прабудзіўся наш Нёман прастары,
Падхапіў малайца, Беларусі хлапца,
І вынёс яго ўверх ён на хвалі.

Доўга хвалі яго нясьлі аднаго,
Цалавалі кідалі як муху.
Пакуль жыцьцё яго ня прыйшло да яго,
Пакуль ён ня набраў сілы духу.

Патым ціха яго, ўлюбенца свайго,
Вынесьлі і на брэг палажылі,
Пацалунак яму, быццам, сыну свайму
На адходзе ласкава злажылі.

Хлапец доўга ляжаў і аб сьвеце ня знаў
І ня чуў, як бурліў Нёман глуха,
Пакуль гукі яго ня дайшлі да яго
І ня гукнулі: „хлапец, ты, паслухай“.

Тады хлопец наш сеў, ужо сілу ён меў,
Каб паслухаць што рэчка гавора;
Вочы да яе скіраваў, бо ўжо ён ня знаў,
Што вялікае нядаўна меў гора.

„Ты паслухай мяне, раскажу я табе,
Як даўно я нясу свае воды,
Для каго тут прыйшоў, як сюды я зыйшоў
І якіе тады былі годы“.

„Бо ты першы мяне пазыскаў для сябе
Сваім гукам, што гукнуў за мною,
Што быў чуцень на дне і прыемны ён мне:
„Беларус што загінець з душою“.

„Гэта імя твае ёсьць сьвятым для мяне,
Беларусі ты сынам назваўся,
Усе сыны яе адыйшлі ад яе,
Толькі ты яе ня чужаўся“.

„Вось за гэта мяне пазыскаў для сябе,
Ты за гэта ня заліўся вадою,
А цяпер табе ўсё раскажу пра жыцьцё
Й мой дух будзе заўсёды с табою“.

„Было гэта даўно, калі жыцьцё плыло
Без бяды, канданоў і палонаў,
Калі ўвесь наш сьвет быў лясамі адзет
І ня знаў ні сахі ні баронаў“.

„Тады чалавек, вольным шляхам хадзіў,
Быў падобны да птушкі-сокола,
Дзе хацеў, там пайшоў: ці ў лес, ці дамоў,
Усяго быў панам увокала“.

„Бо ня было тады ні паноў ні бяды,
Што-б змушала яго працаваці,
Дрэва домам было, жыцьцё мёдам плыло
І ня трэба было бедаваці“.

„Калі ўжо ён старэў, калі ён дзяцей меў,
Толькі тады з бядой пазнаваўся,
Бо валокся ў сьвет, шукаць дзецям кабет,
Дзеля гэтага ён турбаваўся“.

„Вось адзін чалавек дажываючы век,
С пад Левантум валокся сюдою,
Меў траіх ён хлапцоў, усіх трох удальцоў,
Дзеля гэтых й пазнаўся з бядою“.

„Прывалокся сюды праз чатыры гады,
Калі вясна йшла чарадою,
Калі ўвесь наш сьвет быў у ліcьцьцё адзет,
А птушкі плылі грамадою“.

„Калі наша зямля, як жытам чорна раля
Цёплай восеньню яна пакрываецца,
Калі яе жыцьцё тхне даброцяй усё,
Быццам, ангел які ўсьмехаецца“.

„Вось у такую пару ў гэтым нашым бару
Затрымаўся стары з малайцамі,
Каб сваю сілу ўзмацніць, надзею шчасця ўзбудзіць
Иісьці далей з сваімі хлапцамі“.

„І вось мамэнты вясны, як ідэальныя сны,
Надта ім спадабаліся,
Што апошнія годы свае тут яны
Рашылі дажыць у іх. І яны засталіся“.

„Добра жылі яны між бароў тых адны,
Калі аб мэце яны забывалі;
Але сумна было, жыцьцё бурна плыло,
Калі аб жонках яны ўспаміналі“.

„Ані пекнасьць вясны, ані ночныя сны
Бяды не маглі адагнаці,
Што мучыла яго, старога таго
І ён мусеў аб тым успамінаці“.

„У дзень маркотны ён быў, уначы месяц прасіў,
Бы дзяцей яго супакоіў,
Каб дзяўчатак для іх, для няшчасных такіх,
Ён паслаў і пацешыў яго“.

„Калі раз так стаяў калі просьбу складаў,
Голас якісьці гукнуў вечавы.
Дубы затрасьліся, вятры ўзняліся
І паўстаў хто жывы, няжывы“.

„Аб сынох не бядуй, сыну родны ты мой,
„Табе раніцай будзе ўсё,
„Тваім дзецям я сам жонак выберу, дам
„І пры іх счасьліве скончыш жыцьцё.

„Зараз тут каля вас, як мінець ночны час,
„Будзе бегчы рэчка бурлівая,
„На брэгу ля ей, каля маткі сваей
„Будуць сядзець дзяўчаткі думлівыя.

„То падругі хлапцоў, тваіх, бацька, сыноў,
„Краіне яны дадуць маладое жыцьцё,
„Рака тая для вас будзе маткай увесь час,
„Яна будзе даваць вам усё.

„Я сам вам ускажу, шлях жыцьця пакажу,
„Каб расьлі як дубы, ясакары
„І гэту сваю запаўнялі зямлю,
„Каб было іх як зоркаў у прасторы“.

„Раптам сьціхла ўсё і старое жыцьцё
Паплыло сваею дарогай,
Толькі лес стаў шумець, вятры сталі гудзець,
Як-бы было аб‘яўленьне Бога“.

„Цэлую ночку яны між бароў тых адны
Трасьліся, усходу чакалі,
Каб хучэй тое ім пабачыць самым
Аб чым гукі якіясьць гукалі„.

„Урэшці мілы наш дзень разагнаў цёмны цень
І па куточкам ўсюды развеяў,
Тады раптам усё ім аткрылось жыцьцё
І цэлая іхня надзея“.

„Вось, што той чалавек, дажываючы век,
Мне гаварыў пра бытнасьць сваю,
А потым усяго быў я сьведкай таго,
Што рабілася ў вашым краю“.

„У нізе перад імі я хвалямі сваімі
Жыў і несься чарадою,
Дрэвы каля мяне. што віталі мяне,
Таўпіліся цёмнай грамадою“.

„Каля самай вады на каменьню тады,
Сядзелі ўбелі дзяўчыны,
На галоўках—вянкі з кветак як ваганькі
І з квяточкаў нашай маліны“.

„Што за радасьць была, якое шчасьце было
Тых хлапцоў і бацькі старога,
Не падобна сказаць, ані то-ж апісаць,
Бо на гэта часу трэ‘ многа“.

„Але вось што скажу, галоўны шлях пакажу,
Адкуль узялося імя Беларусі;
Бо Беларус пра жыцьцё, назоў, так-жа і ўсё
Бацькаўшчыны сваей ведаць мусіць“.

„А што ў белі яны сядзелі тады,
То і дзяцей сваіх Белымі звалі,
Далей цэлы свой род, а потым й народ
Белай расы яны называлі“.

„С белай расы тае выйшлі бацькі твае
Радзімічамі іх называлі,
А другіх Крывічы, трэйціх Дрыгавічы
Як гісторыкі аб іх напісалі“.

„Але першы той род, скуль ідзець ваш народ,
**Быў род белых,**
Хаця людзі аб ім і ня знаюць,
Але знак людзёў тых перашоў у вас самых
І Беларусамі ўсе называюць“.

Раптам сьціхло ўсё і старое жыцьцё
Паплыло сваей чарадою,
Толькі хвалі яго гулі аднаго
І нясьліся ў даль грамадою.

**Б. Л.**

---

# Сон на Нёмане каля Шчары.

Далёка на заходзе сонца заходзе
І месяц глядзіць ужо з усходу,
Плыву я па Нёмне і з чоўна на сподзе
Узіраюсь на ціхую воду.

Здаецца мне: сонца зноў блiснула і стухнула
І вечар наўкола пачаўся,
І бачу: як, быццам, сьвечкамі бухнуло,
Далёка сьпеў сумны раздаўся.

Зусюль навакола званы зазьвінелі,
Аж лісьця дрэў затрасьліся,
А над ракою крукі закрычалі,
Высока ў верх падняліся.

Я бачу: плывуць вось плыты за плытамі —
І шмат на іх домікаў-будак,
І чую і бачу я: што між агнямі
Шмат плытніцкіх скрыпак і дудак.

На першых плытох там харугваў дуброва,
Што ціха сабе шелесьціць,
А бліжай канца дамавінка цэдрова,
І ў ёй Беларусь там ляжыць.

А на абудвых берагах Нёмана
Сыны Беларусі ідуць
За імі радня іх—бяз плачу і гомана
І сьлёзы з вачэй ня плывуць.

Усе ціханька хваляць Нябошчыцы сілу
І славу, што мела даўно —
Цяпер праваджаюць Яе ў магілу:
У Балтыйскае мора на дно...

Званы ўжо апошні раз Ёй загудзелі,
Апошні паклон дасца Ёй,
Глыбока палoжаць на морскай пасьцелі
І будзе Ёй вечны спакой...

Нідзе ня чутно ані плачу, ні енку —
Халодныя сэрцы, як лёд.
Дзе-недзе ўздыхаюць дзяды памаленьку,
Ды дзівіцца іншы народ.

Аж збегліcь на бераг зусюль каля Нёмна
Дзяцей беларускіх гурткі,

I з берагаў, крыху дзе рэка заломана,
Ёй кідаюць з кветак вянкі.

I міла так слухаць іх голас дзіцячы,
Што роднай душой аддае:
„Хай Матухна ўстане, нас крышку пабачыць,
„Мы ўсе тут жывем для Яе!“

„Мы ўмеем маліцца пабеларуску,
„Пяяць, і пісаць, і чытаць, —
„У вопратцы роднай, у школе ўжо нашай
„Народныя танцы скакаць“.

„Дык выйдзі-ж, Матухна, ўстань, падзівіся,
„Мы хочам пабачыць Цябе,
„Паблагаславі нас, пацеш, памаліся —
„Ды потым паедзеш сабе! —

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Тымчасам мой човен аб камень удэрыў,
Аж скалыхнуўся ды стаў,
Вачам сваім доўга з прасоньня ня верыў,
Што плыў я на чоўні і... спаў.

Дык гэто быў сон толькі?.. Мілы мой Божа!“
Я, вочы працёршы, пытаў. —
Вось сон часам многа паказываць можа:
Калі што, як прыдзе на яў.

1922 г. I/VII. Слонім. **Гальяш Леўчык.**

# Студэнт на чужыне.

Няма на сьвеце прыгажэй
Пары вясны, пары студэнства:
Наш небасхіл гарыць ясней,
I моладзь траціць падабенства
Людзей рэальных... Быццам, з мар
Жыцьцё складаецца выключна...
Няма клапот, ні чорных хмар...
Жывуць зямля і неба злучна.

---

Было так дзесяць год назад,
Цяпер зрабілась штось другое,
Студэнт жыцьцю свайму ня рад
I гора мучыць яго злое.
Няма надзеі, пекных мар,
Што будзе заўтра, ён ня знае...
I, быццам, месяц із-за хмар
Бяда і голад выглядае.
Куды падецца, уцячы...
Кругом варожыя, чужыя...
Сваіх за ворагаў лічы,
Бо сталі тут усе такія.
Агіда, помста і разлад
Пануе ўсюды між сваімі...
Атрутай стаўся брату—брат...
Паміж звярмі жывём ліхімі.
Няма сямьі, прапала матка...
Забіты бацька дзесьці там...
Стаіць сіроткай у полі хатка
У чужыне сьмерць прыйшла братам.
I ён у чужыне апыніўся,

Ды шчасьця ўжо і тут няма,
Бо ў Беларусі ён радзіўся,
А без яе ўвесь сьвет турма.
Ня цешыць веда і культура,
Калі душа агнем гарыць...
Усе падобна авантуры,
Калі на Бацькаўшчыне спіць,
Як на магільніку ўсе тое,
Што можа душу разбудзіць...
Хай згіне там усё чужое!
Для сваяго хачу я жыць.

**Сумны**

# Славянам.

Убогі, абняты паганаю доляй—
Багатыя духам, браты!
Кэму непраглядная цемра няволі
Навеяла сон залаты!
Чаму нам ня глянуць сабе навакола
І раніцы пахам дыхнуць?
Узыйшоўшаму яснаму сонцу вясёла
Славянскі свой гімн зацягнуць?
Чаму нам ня кінуць узаімнай нязгоды,
Славяне? Брат брата абняць?
Каб людзкое права народнай свабоды
Агульнай сямьёй скарыстаць?!
Здабудзем-жа веру ў нязломану сілу,
Паставім, паднімем свой стан—
І будзе нам маткаю роднаю, мілай
Вяліка дзяржава славян!

**Ф. Ч.**

# Народныя песьні.

—„Ой, чырвона каліна
Да ўсю весну красіла,
Маладая да дзяўчыненька
Свае сэрца сушыла.

А я тую каліну
Паламлю, ды пакіну,
За ліхім мужам, за разбойнічкам
Я навекі загіну.

Ой, пайду я да броду,
Ды да броду па воду,
Ой, да стану я, да падумаю
Ці харошага роду.

Я харошага роду
І на твар я „прэкрасна“
Аддала мяне ды матуленька,
Дзе дружына няшчасна!

Ой, пайду я да рэчкі,
Да ў той рэчцы ўтаплюся,
За ліхім мужам, за разбойнічкам
Я ў-ва век не разжывуся!“

—„Не тапіся, дзіця, ты,
Бо на век душу згубіш,
Трэба было мне, ды упярод казаць
Каго верне ты любіш“.

—„Каго верне любіла
Таго ў век ня забуду
Наракала я на матуленьку
И наракаці я буду“.

Са слоў **Любы М.**
Веска Кубяльнікі з-пад Горадні.

* * *

Ляці, коню, дарогаю,
А якою—шырокаю,
Ляці, коню, пад вароты,
Стукні, грукні падкоўкамі;
Каб падкоўкі забрашчалі,
Каб вароты затрашчалі.
Да це выйдзе стара бабка,
Стара бабка—родна матка.
Будзе цябе гаўсом вітаць,
Будзе ў цябе праўды пытаць.
Ня каж, коню, што ўбіт ляжу,
А кажы, коню, у войску служу
У войску служу, ажаняўся,
Усей радзіме пакланіўся,
А ўзяў жонку валынушку,
У чыстым полі магілушку.
Вазьмі, маці, пяску жменю,
Пасей яго на каменю,
Калі гэты пясок ззыдзе,
Тады сын твой з вайны прыдзе.

Са слоў **Любы М.**
Веска Кубяльнікі з-пад Горадні.

---

* * *

Каліна й маліна
З ветрам гаварыла
Парадзіла міне маці
Жаўнерскага сына.
Парадзіла міне
Сярод цёмнай ночы,
Да дала бела ліцэ
І чорныя вочы.
Ня было-б, мая маці,
Чорных вачэй даваці
Да было-б, мая маці,
Шчасьце й долю даці,
Бо ўжо міне наставілі
У салдаты аддаці.
Сеў жаўнерак ёсьці
Прыйшлі з палка весьці
Кідай вячэраці
Час на каня сесьці.
Жаўнерак сядае,
З раднёю прашчае
Жонка маладая
Зямлю прабівае.

---

Ні дай, Божа,
У чужой старане ўмерці,
Німа каму дагледзіці
Жаўнерскае сьмерці.
Арол прылятае
І сьмерці чакае
Цела адаўбае
А косьці пакідае.

Спісаў **Ю. Кастэцкі**
в. Гаркавічы з-пад Саколкі,
Горадзяншчына.

# Беларускі Сакол, яго мэты і арганізацыя.

(Гл. № 1 „Студ. Дум.“).

Цяпер затрымаемся над пытаньнем, як мы прадстаўляем сабе арганізацыю Беларускага Сакала?

Па першае: хто можа быць сябром Беларускага Сакала? Сябром можа быць: мужчына або жанчына, найменей 18-цігадовы, славянскае народнасьці, без завады; той, хто прысягаў, што будзе выконваць усё тое, што яму накажа арганізацыя. Прыймаецца усякі той, хто ня мае завады нятолькі ў сэнсе закону, але і ў сэнсе маральнасьці сакольскае. Яму выстаўляюцца запатрабаваньні: пастарацца аб сакольскім усьведамленьні, падрабіцца сакольскім мэтодам выхаваўчым, жыць пасакольску ў пастаяннай службе народу, братэрству і поступу.

Разрозьніваем сяброў поўнапраўных і прынятых на іспыт. У-ва ўсіх

другіх прыпадках усе роўныя ў правох і павіннасьцях. У Сакале няма сяброў чынных, спачуваючых і г. д., гэта ёсьць новае г. з. адзіночнае сяброўства.

Час іспыту трывае звычайна 6 месяцаў, але, аднак, можа быць прадоўжана ажно на год. Прычыны прадаўжэньня: уласная просьба сябры прадоўжыць час іспыту, або жаданьне прэзыдыуму здружэньня ляпей пазнаць пэўнага сябру, або ўрэшце невыпаўненьне прадпісаных павіннасьцяў. Гэтыя павіннасьці:

a) праслухаць ідэёвую школу сакольскую; ад гэтага можа быць звольняны той, хто зложыць іспыт за такую школу;

b) выпаўненьне ўсіх сяброўскіх павіннасьцяў, асабліва павіннасьцяў муштровых.

Ад выпаўненьня павіннасьцяў муштровых можа быць звольняны толькі з прычыны хваробы ці заняткаў і то *maximum* на год.

Час іспыту канчаецца:

a) калі прэзыдыум абвесьціць сябры, што да прысягі яго ня можа дапусьціць. Можа гэта стацца тады калі прэзыдыум даведваецца аб пэўным сябры нешта кампрамітуючае яго нагэтулькі, што ён не дапусьцімы ў Сакол. Гэтым канчаецца ягонае сяброўства.

b) калі сябра ўсё, што патрабуецца ад яго ў час іспыту выканаў, быў пазваны да сакольскае прысягі і выканаў яе ў пастаноўляным тэрміне.

Злажыўшы прысягу сябра атрымоўвае ўсе сакольскія правы г. ё. права ўчасьнічаць у-ва ўсіх муштрах і прадпрыемствах, якія робіць здружэньне, права карыстаць з усіх іншых сакольскіх выгад; права галасаваньня на ўсіх агульных сходах; права выбіраць і быць выбранаму; права насіць сакольскую вопратку і сакольскі грудны адзнак „Наварту“.

Братом здружэньня перастае быць:

1. Той, хто падае пісьменую заяву аб выступленьні.

2. Той, хто ня плаціць сяброўскіх складак балей як тры месяцы, нягледзячы на прыпамінаньні з боку прэзыдыума.

3. Калі невыпаўняе сакольскіх павіннасьцяў нат‘ пасьля трох напамінаньняў.

4. Калі здружэньне пэўнага сябру за грубае нарушэньне чэсьці або сакольскае дысцыпліны выключае.

Сябры аб‘едналыя творац Здружэньне.

a) найгалаўнейшай праўнай адзінкай здружэньня ёсьць агульны сход, які можа выращаць абсалютна ўсе пытаньні.

b) Агульны сход выдзяляе з сябе 5 братоў, атрымаўшых абсалюторый даверра, якія творац Прэзыдыум Здружэньня.

c) Агульны-жа сход выдзяляе з сябе 3 братоў т. з. рэвізыйную камісію, якая кантралюе працу прэзыдыума.

d) На прыпадак калі б вышлі непаразуменьні паміж братамі Агульны сход выбірая Суд Гонаровы з 3 братоў.

Калі Здружэньне разрастаецца пры ім можа быць утворана пабочка, якая, аднак, сама нічога ня можа рашаць і падпарадкоўваецца суцэльна Здружэньню.

Аб'яднаньне Здружэньняў творыць сакольскі павет. Паветы твораць сакольскую губэрню. Губэрні — край і нарэшце ўсё беларускае сакольства творыць Агульны Беларускі Сакол.

Арганізацыя ў-ва ўсіх паіменаваных аддзелах падобная, як і ў Здружэньні. Толькі агульныя сходы там ужо зьбіраюцца не з усяго сяброўства, а з яго прадстаўнікоў і, зразумела, што чым вышэйшым аддзел, тым шырэйшую працу ён выконвае.

Ад часу да часу, дзеля перагляду сілаў, склікаецца агульнасакольскія зьлёты.

Чым-жа павінен кіравацца сябра Сакала?

1) Тымі ідэямі, якія паложаны ў аснову Сакольскае Арганізацыі.

2) Пастановамі Здружэньня губэрні і Агульнага Беларускага Сакала; паскольку-ж мы такіх пастаноў яшчэ ня маем—пастановамі і разалюцыямі агульных З'ездаў Чэскага Сакала.

Сакол—арганізацыя абсалютна апалітычная, але нацыянальная.

Сябры Сакала называюць адзін аднаго „брат“ і заўсёды зварочваюцца на „ты“. Сябра і сяброўка зварочваюцца на „вы“; сябра называе сяброўку сястрою. Значаньне гэтага: роўнасьць—братэрства.

Сакольская вопратка можа ўжывацца, толькі ў прыпадках, калі на гэта ёсьць дазвол Прэзыдыуму.

Павіннасьць, выплываючая з арганізацыі, жадае безварункова дысцыпліны, аднак, не бязсэнсоўнае.

Кажды брат мусіць зрабіць зараз-жа ўвагу другаму брату, калі той другі робіць нешта дрэннае, бо „Братэрства“ ня ёсьць у тым, каб ня відзець фэлераў брата, але, каб іх вытknуць, толькі ў спосаб братэрскі,—кажа Тырш.

Рацыянальнае, братэрскае дысцыпліны арганізацыя дамагаецца нават і спосабамі караньня, як то: выгаварам перад прэзыдыумам, ці шэрэнгаю, пазбаўленьнем сакольскіх правоў і ўрэшце вылучэньнем з Сакала.

У пэўным і адданым выпаўненьні арганізацыйных павіннасьцяў—сіла Сакольства, з яго выплываюць вялікіе ўсьпехі Сакольства.

Нашыя вялікія акцыі ў службе народу, Славянству, братэрству.

Дык браты і сёстры! За сьветлыя ідэі сакольства, за Нашу Дарагую незалежную Бацкаўшчыну, усе як адзін уперад!

Усе за аднаго, і адзін за ўсіх!

Там сьвет гнецца, куды сіла напрэцца! **Вячаслаў Лаўскі.**

# Асьвятленьне сцэны.

Цікавасьць да роднага тэатру сярод беларускага сялянства расьце з кожным днём. Нашая вясковая моладзь узялася за тэатральную працу дужа пільна. Аднак, часта малыя досьледы ў гэтай справе робяць, нават, пры ўсіх высілках, пасьпех дужа слабым. Як ведама, пасьпех тае ці іншае сцэнічнае рэчы залежыць значна, апрача добрае гульні артыстаў, таксама й ад правільнага асьвятленьня сцэны, эфэктаў, хуткасьці перасоўваньня дэкарацыі й інш.

Вось, жадаючы прыйсьці на помач маладым працаўнікам ў тэатральнай галіне, дамо тут хоць некалькі практычных паказаў пры асьвятленьні сцэны.

## Чаго вымагаецца ад асьвятленьня сцэны?

Асьвятленьне сцэны павінна адказываць гэткім вымаганьням: 1) каб зусім добра былі бачанымі артысты і дэкарацыя; 2) каб постаці, якія пасоўваюцца на сцэне ня кідалі цені; 3) лямпы павінны быць зьмешчаны так, каб лёгка й няпрыкметна можна было-б зьмяняць коляры сьвятла й яго напружаньне (прыкручваць і выкручваць).

## Сьвятло ніжняе, верхняе і бочнае.

Ведама, у гарадох, дзе ёсьць магутнае сьвятло электрычнае, справа асьвятленьня сцэны не прадстаўляе вялікае труднасьці. Зусім іншы выгляд мае асьвятленьне сцэны на вёсцы, якая не карыстае з гэтага сьвятла, а, выключна, мае справу з газавымі лямпамі (газоўкі). Аднак, і пры помачы лямпаў можна дужа добра асьвяціць сцэну; трэба толькі ўмела абыходзіцца, каб не нарабіць пажару.

Аматарскія сцэнкі ўжываюць часта асьвятленьне ніжняе, г. ё. „рампы". Асьвятленьне гэтае мае перадусім тую загону, што ёсьць ненатуральнае, бо нідзе ў прыродзе не сустракаем сьвятла, што йшло-б зьнізу. Падругое, яно ёсьць непрактычнае, таму што кідае цені ад рухаючыхся асобаў на заднюю папярэчную дэкарацыю. Найлепш зьмясьціць лямпы ўгары за заслонай (лічучы ад глядзеньнікаў) і збоку (на першым пляне ля самае заслоны, на другім і трэцім пляне). „Рампа" можа застацца, але слабая, каб толькі асьвятляла перад сцэны і адцяняла твар гуляючых. Калі „рампу" адсунем зусім, дык заместа яе добра будзе паставіць лямпы на падлозе побач сьценак, на першым пляне, як левай так і правай. Іх зусім хопіць для асьвятленьня пярэдняй часьці сцэны. Для застаўшаеся часьці маем лямпы бочныя і верхнія.

Дзеля асьвятленьня задняй папярэчнай дэкарацыі найлепш карыстаць з сьвятла верхняга. Праз гэта можна пазбавіцца зусім цені, а пры відавой мэкарацыі маем выгляд самага натуральнага сьвятла якое падае заўсёды згары.

Сёньня, нават, вялікія спэцыяльныя тэатры не баяцца слабое „рампы“; замест гэтага ўсю ўвагу зварочваюць на сьвятло верхняе й бочнае. Загана толькі гэтаму тое, што твар артыста бывае аднолькава асьветляны. Прыпамятуем сабе, аднак, магутнае сьвятло сонечнае, каторае так добра адцяняе рысы твару...

Каб сьвятло на сцэні ня было рэзкім, а больш прыемным для вока, ужываем замест шкла для лямпаў—матавае, або закрываем лямпу паперкай пратлушчанай і наклеянай на планачку. Толькі тады выкручваецца кнот для павялічэньня сьвятла, таму што шкло матавае, ці паперка памяньшаюць сілу апошняга.

---

# Успаміны аб „Горадзенскім Гуртку Беларускай Моладзі“.

Вось яшчэ адны ўгодкі аб каторых, аднак, мала хто, або ляпей, амаль ніхто ня ведае.

19-га лютага 1910 года была наладжана ў Горадні першая беларуская вечарына-спэктакль. Захаваўшаяся, ніжэй прыложаная праграма паказывае паважныя мэты, якімі кіраваліся арганізатары вечарыны.

## Праграма вечарынкі 19 лютага 1910 года.

— I —

1) Прамова — А. Бычкоўскі.
2) „Беларусы і іх вацыянальнае адраджэньне“ рэфэрат— П. Алексюк.
3) „А хто там ідзе?“ муз. Рогоўскаго — Я. Косацка і З. Абрамовіч.
4) „Пажалей мужыка“ верш Я. Купалы — А. Клюкоўскі.
5) Музыка.

— II —

„ПА РЭВІЗЫІ“

кам. ў 1 д. Крапіўніцкага.

АСОБЫ:

Сцяпан Мірановіч старшыня— П. Алексюк.
Савасціан Саввацевіч Скубко пісар—З. Абрамовіч.
Пантурчыха старая баба — Л. Сівіцкая.
Параска салдатка—А. Солянко.
Гарасім сьведка—Я. Ляўковіч.
Сторож пры воласьці—В. Сямяновіч.

Рэжысэр З. Абрамовіч.

— III —

1) „Дудка“ верш Мацея Бурачка — Е. Кунда.
2) „Гора“ муз. N.N. Я. Косацка
3) „Ямшчык“ верш Я. Лучыны П. Алексюк і К. Бужыньскі.
4) „Храк“ манал.—А. Ляўковіч

МАРШ.

Вечарынка была наладжана ў прыватным памешканьні (ў доме Салянкаў на Паліцыйнай вуліцы), дзеля чаго і сцэна і саля былі

страшэнна цесныя. Ня гледзячы на гэта артысты гулялі добра, а гасьцей сабралося гэтулькі, колькі здолела памясьціцца; былі паміж імі і беларусы ўжо сьвядомыя і прыхільнікі; паміж апошнімі нельга ня ўспомніць цяперашняга пасла Сыльвэстра Ваявудзкага, у той час вучня горадзенскай гімназіі. На жаданьне публікі на другі дзень спэктакль цалком быў паўтораны.

---

Артыстамі і загадчыкамі спэктаклю былі выключна сябры. Не задоўга перад тым, увосені 1909 г. зарганізаваўшагася: „Горадзенскага Гуртка Беларускай Моладзі". — Г. Г. Б. М., як называў сябе гурток дзеля канспірацыі, бо зложаны з адных гімназістаў і гімназістак быў— нялегальным.

Закладчыкамі і кіраўнікамі гуртка ў першым пачатку былі кс. Д. Грынкевіч і вучань 7-ай кл. гімназіі Адам Бычкоўскі (першастрэчны брат тагочаснага рэдактара „Беларуса" Антона Бычкоўскага).

На арганізацыйным паседжаньні быў выбраны ўрад гуртка, каторы складаўся з старшыні А. Бычкоўскага, віцэ-старшыні П. Алексюка, сэкрэтара З. Абрамовіча і бібліятэкаркі Л. Сівіцкай.



Горадзянскі Гурток Беларускае Моладзі ў 1910 г.

Працу сваю гурток пачаў пэрыядычнымі (раз у тыдзень) „лекцыямі" на каторых чыталіся і разбіраліся творы беларускіх пісьменьнікаў, праходзілася гісторыя і геаграфія Беларусі.

— У хуткім часе бібліятэка гуртка пачала павялічвацца й апроч „Нашай Нівы", „Смыка", „Дудкі" ды „Жалейкі", якія былі ахвяраваны гуртку пры яго „нарадзінах", мела ўсе кніжкі, якія толькі можна было дастаць у Вільні і ў Петраградзе. — Кніжкі і календары, а таксама „Наша Ніва" выпісываліся „на камісію і разходзіліся ня толькі па Горадні але і па вёсках, бо кожны сябра гуртка абавязаны быў прадаваць кніжкі ў як найбольшым ліку. — Грошы прыдбаныя такім спосабам ішлі йзноў на патрэбы бібліатэкі і канцэляры гуртка.

— Першым, так сказаць, публічным выступленьнем гуртка была вышэй успомненая вечарына. Але ж гэтым агранічыцца нельга было.

Г. Г. Б. М. маніўся пашырыць сваю працу на вёску і дзеля гэтага падчас тых-жа запускоў цэлы склад артыстаў паехаў на вёску, дзе йзноў ставілі „Па рэвізыі"; дэклямацыі і быў прачытаны асьведамляючы рэфэрат. Гэтая першая вечарына для „вёскі" была наладжана ў Сакольшчыне, у маёнтку „Крыштапарово", каля мястэчка „Новый-Двор".

— Вялізарная саля, паміма дрэннай пагоды была поўная людзей з вёсак Меленкоўцы, Пагаране і Берпікі.

Пасьля запускоў гуртак ізноў вярнуўся да нармальнага жыцьця г. ё. да лекцыяў і паседжаньняў, каторыя ў хуткім часе, з наступаючай вясной замяніліся „спацырамі" за места, найчасьцей над Нёман, у Ласосну, дзе пад шум вады і сьпевы птушак пачаў прабаваць свае сілы—гуртковы хор.

Карыстаўся хор 1-м Сьпеўнікам А. Грыневіча, але найчасьцей пялі песьні прывезеныя з сваіх родных вёсак і такім чынам вырабіўся зусім арыгінальны, свой уласны рэпэртуар. Загадчыкам хору быў сябра Янка Ляўковіч, называны ў гуртку „Капэльдудкай". Канец школьнага году перарваў працу гуртка, сябры каторага раз'ехаліся па вёсках і хвальварках забіраючы з сабой беларускія кніжкі, а, што яшчэ важнейшае, нацыянальную сьвядомасьць.

—У пачатку новага школьнага году: 1910—11 лік сябраў гуртка значна павялічыўся.



Гарадзянскі Гурток Беларускае Моладзі ў 1911 г.

Прыбыло шмат хлапцоў з малодшых клясаў дзеля чаго прышлося падзяліць гурток на 3 сэкцыі: старшую, сярэднюю і малодшую. Старшая і сярэдняя займаліся літэратурай гісторыяй і геаграфіяй Беларусі, і кіравалі малодшай сэкцыяй, сябры каторай, вучні I і II кл. гімназіі, чыталі па беларуску, пісалі дыктоўкі, вучылі вершы і г. д.;

раз у месяц рабіліся для іх вечарынкі з дэклямацыямі, сьпевамі і гульнямі.

Амаль ня з самай восені старшыя сябры Г. Г. Б. М. пачалі падгатаўляцца да вечарыны. — Пасьля Каляд гэтая падгатаваўчая праца яшчэ больш ажывілася, бо трэба было думаць аб дэкарацыях, праграмах і г. д. — За складкавыя грошы пашылі куртыну з намаляваным усходзячым сонцам, малявалі „вокны“, усялякіе аздобы прывязьлі з вёскі Беляне Сакольскага пав. цэлыя мяхі арыгінальных старасьвецкіх вопратак і нат‘—вясковага музыку-скрыпача.

Наканец, каля палавіны лютага 1911 г. адбылася вечарына, тым больш памятная, што ўшанаваў яе сваей прысутнасьцю с. п. Іван Луцкевіч, сумысьля прыехаўшы з Вільні.

— Быў насамперад прачытаны рэфэрат на тэму: „Адгалосак душы беларускага народу ў яго песьнях, казках і лягэндах“.

Далей пяяў хор і была пастаўляна камэдыйка Каганца „Модны Шляхцюк“. — Як яна сыйшла няхай сьведчаць словы І. Луцкевіча: (з карэспандэнцыі памешчанай у „Нашай Ніве“, № 8, 1911 г.). — „Я дзіваваўся, гледзячы на артыстаў, як яны ўмелі падглядзець, падсьцерагчы характар вясковых сватаньняў, умелі ўстроіць усё так, як яно папраўдзе бывае ў хаце беларускай“.—У канцы карэспандэнцыі кажа: „Вынес я ў падзяку за прыемны вечар, веру, што горадзенская беларуская моладзь родную справу пасуне ўперад“.

Так, была надзея...

У вечары гэтым прыймалі ўчасьце: Л. Сівіцкая (Ганка), І Левіцкі (бацька), К. Колышко (шляхцюк), В. Семяновіч (Ігнась), Я. Леўковіч (сват). А. Зянюк—суфлёр, А. Бычкоўскі—рэжысэр.—Дэклямавалі і належалі да хору: А. і М. Салянкоўны, Ю. Грынкевічанка, С. Кундоўна, Касацкая, М. Бобрыкоўна, Д. Лабенец, А. Сьпевак, Э. Кунда і другія.

У пару тыдняў пасьля ўвесь склад артыстаў, хор і аркестр струнных інструмэнтаў, паехалі ў Сакольшчыну, дзе ў маёнтку Дубніца быў паўтораны вышэй апісаны спэктакль.

— Гарачыя, маладыя арганізатары спэктаклю, маючы адно вялікае жаданьне: ісьці „ў народ“ не раздумывалі да якіх вынікаў можа іх давясьці гэтая паездка. Справа ў тым, што дазволу ад паліцыі на вечарыну ня было, а да гэтаго адбылася яна ў маёнтку горадзенскага архіярэя, аб чым арандатар і жыўшы ў маёнтку манах не абмінулі ў хуткім часе архіярэя паведаміць. Справа адразу апынілася ў губэрнатара і толькі дзякуючы знаёмству з адным чыноўнікам губэрнатарскай канцэлярыі, удалося яе схаваць „пад сукно“.

Самую-ж вечарыну жыхары вёсак: Беляне, Хварасьцяне і Стрэльчыкі ўспамінаюць па сёньняшні дзень.

У тым-жа самым школьным годзе ў траўні (май) месяцы адбылася маёўка, на каторай Г. Г. Б. М. разьвітаўся з вялікім жалям з сваім арганізатарам і першым старшынёю Адамам Бычкоўскім, каторы скончыўшы гімназію выяжджаў з Горадні.

— Недоўга паждаўшы ўсе сябры гуртка раз‘ехаліся на летні адпачынак.

Л. С—Ш.

(Працяг будзе).

# Польскае студэнства на У. С. Б. у Вільні.

(Гл. № 1 (2) „Студ. Дум.“).

Да правіцы ўходзіць другая арганізацыя „Odrodzenie“, па ліку сяброў яшчэ значнейшая ад першай. Як і першая група, „Odrodzenie“ бярэ за падставу сваей ідэалёгіі, што дабро народу *польскага* ёсьць найвышэйшая вартасьць; аднак, рожніцца ад „Wszechpolaków“ тым, што прызнае істнаваньне яшчэ другога паняцьця — гэта дабро касьцёла і веры каталіцкае.

„Давясьці да Хрыста“ — вось галоўны дэвіз „Odrodzenia“. Як ён мае быць зьдзейсьняны ў жыцьці, адказу не даець. Выстаўляець, як канешнасьць, выпаўняньне практык рэлігійных і як найшырэйшага праяўляньня сваей прыналежнасьці да каталіцкага касьцёла.

„Odrodzenie“ не даець адказу, якімі шляхамі мае вясьці студэнта ў працы грамадзкай, які стасунак пры разрашэньні пытаньняў сацыяльнага парадку. У адозвах, якіх шмат гэтая арганізацыя раскідаець можна прачытаць агульныя ўвагі аб значэньні духа хрысціянскага ў грамадзкай працы і балей нічога. На „пекныя“ словы адозваў „Odrodzenia“ ідзець шмат студэнтаў, асабліва студэнтак.

Да меньшасьцяў такі-ж самы стасунак, што і моладзі „Wszechpolskiej“. Аддзяленьне ад жыдоў на грунце унівэрсытэту і за яго сьценамі і асыміляцыя Беларусаў, Украінцаў, Ліцьвінаў і другіх нацыянальных меньшасьцяў. „Odrodzenie“ мо‘ хацела-б усіх беларусаў перавясьці да веры каталіцкай ад majorem Catholicae Ecclesiae gloriam.

Абедзьве гэтыя партыі прызнаюць за канешнае стасаваньне рэпрэсыяў да ўсіх тых, што дагэтуль не палякі.

Паміма свайго евангэлійнага сьветапагляду „Odrodzenie“ прызнаець жорсткія способы стасаваньня пры асыміляцыі беларускага й украінскага народу.

Годзіць неяк гэта з „вядзеньнем к Хрысту“ і хрысьціянскай этыкай.

Усе спробы пратэсту проціў гвалтаў і рэпрэсыяў, стасаваных да нацыянальных меншасьцяў „Odrodzenie“ называець талстоўствам.

Трэйцім асколкам правіцы студэнцкай у Вільні з‘яўляецца т. зв. „Незалежная Моладзь Народова“. Гэта тыя-ж самыя правіцоўцы. Расходяцца з групай „Wszechpolaków“ тым, што ў справе numerus clausus, хаця і прызнавала прынцыпова яго патрэбу, аднак, былі праціўнікамі numerus clausus, дзеля немагчымасьці пры сучасных варунках палітыкі сусьветнай і палажэньні Польшчы зьдзейсьненьня яго. Апрача таго, гэная група правіцы студэнскай ня годзіцца з брутальнымі способамі палітычнай барацьбы, практыкаванай праз дзьве вышпомняныя правіцовыя арганізацыі.

Пераходзячы ад правых студэнскіх арганізацыяў, трэба адценіць, што пераважная частка польскай студэнскай моладзі захопляна баявымі прызывамі правіцы. Нявырабленьне характараў, выхаваньне сярэдняе й ідэалёгія грамадзянства старэйшага вядуць моладзь у правыя арганізацыі, каторыя ня выяўляюцца віднай працаю грамадзкою ў асяродку сваіх арганізацыяў. З паміж гэтага напрамку выходзяць сябры карпарацыяў.

(Канец будзе).

# ХРОНІКА.

— **Ад рэдакцыі.** Дзякуючы нястачы грошай гэты нумар абслугоўвае 2 месяцы.

— Каб даць большую магчымасьць сябром Б. С. С. карыстаньня бібліятэкаю, у летнім трымэстры, бібліятэка Бел. Студ. С. будзе адчынена што суботы ў гадз. 6 — 8 увечары.

— Урад Бел. Студ. Саюзу пастанавіў арганізаваць рад рэфэратаў. 1. III. ў салі Беларускай Гімназіі быў прачытаны п. А. Луцкевічам рэф. на тэму „Экономічная эволюцыя і беларускі адраджэнскі рух". 15. III. там-жа п. Р. Астроўскім — рефэрат на тэму „Космогонічныя гіпотэзы".

У летнім трыместры адбудзецца дальшы цяг рефэратаў, паміж імі будуць і з дыскусіямі. 26. IV. п. праф. Бр. Тарашкевіч мае прачытаць рефэрат на тэму „Мова і Народ".

— Меўшаяся адбыцца 21. III. вечарына, ладж. Бел. Студ. Саюзам, з прагр. „Шчасьлівы муж" Фр. Аляхновіча і канцэртны аддзел— не адбылася, бо п. Камісар Ураду ня даў дазволу, быццам, таму, што ў праграме быў беларускі гімн: „Ад веку мы спалі"... Калі ня будзе перашкодаў з дазволам, тая-ж вечарына адбудзецца 2 траўня. Пачатак у $7^1/_2$ ўвечары.

— Сёлета 25 сакавіка Беларусы сьвяткуюць 400-ыя ўгодкі заклaдзінаў першае друкарні ў Вільні беларускім гуманістам Францішкам Скарынай.

У дзень сьвяткаваньня адбудзецца акадэмія ў 8 гадз. вечара ў салі Беларус. Гімназіі з парадкам дня: 1) ўступное слова старшыні Бел. Нав. Т-ва А. Луцкевіча; 2) прывітальныя прамовы жадаючых; 3) рефэрат праф. Бр. Тарашкевіча на тэму: „Век Скарыны"; 4) рефэрат п. Ад Станкевіча: „Жыцьцё і праца Фр. Скарыны"; 5) зачыненьне сходу Старшынёй.

— У зьвязку з угодкамі Бел. Нав. Т-ва выдала кніжку, нап. Ад. Станкевічам, „Доктар Францішак Скарына — першы друкар беларускі".

## ПАТРЭБНАЯ КНІЖКА.

Аўтарка „Батанічнага Слоўніка" Зоська Верас апрацавала кніжку пад назовам „Мядовыя расьліны". У кніжцы, вялікшай за „Батанічны Слоўнік", ёсьць беларуска-польска-маскоўска-украінска-лацінскі слоўнік вылучна мядовых расьлінаў. Далей ідуць дэталічныя апісаньні кожнае расьліны: выгляд яе, дзе расьце, як множыцца, яе карысьць і г. д.

У канцы ёсьць аддзелы расьлінаў „прамыслова-мядовыя", „садова-мядовыя" і г. д.

Аўтарка, якая з вялікай любасьцяй пасьвячаецца сваей працы, зьяўляецца ў нас рэдкім чалавекам, які з беларуска-навуковымі мэтамі займаецца батанікаю.

Пажадайма, каб барждзжэй знайшліся выдаўцы на гэтаю важнаю кніжку.

Рэдактар-Выдавец: **Адольф Зянюк.**